ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№11 (2517)

13 сакавіка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## МАСЛЕНЫ ТЫДЗЕНЬ



Масленіца — старажытнае свята сустрэчы вясны ў славянскіх народаў. Здаўна на масленіцу выконваліся абрады, якія павінны былі паскорыць абуджэнне прыроды, магічна садзейнічаць ураджаю. Святкавалі масленіцу напярэдадні Вялікага посту з разнастайнымі блінамі, з вясёлымі песнямі і гульнямі, з масленічнымі песнямі. Традыцыі гэтыя захаваліся ў сучасным святкаванні праводзін зімы.

Урачыстыя провады зімы адбыліся ў сталіцы ў нядзелю, 2 сакавіка.

Святочныя гулянні прайшлі практычна па ўсім Мінску. Тэатралізаваныя прадстаўленні з абавязковым спальваннем сімвалічнага пудзіла зімы і разнастайнымі спартыўнымі спаборніцтвамі разгарнуліся ў парку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага, ля Мінскага палаца дзяцей і моладзі. А на плошчы Прытыцкага адбыўся яшчэ і святочны кірмаш.

Такім чынам сталіца сустрэла Маслены тыдзень, або Сырную "седмицу", якая пачалася на наступны дзень.

НА ЗДЫМКУ: гулянне ў парку імя М. Горкага.

Фота Віктара СТАВЕРА.

*У ПОШУКАХ РАЦЫЯНАЛЬНАГА*

## ПАТРЭБА ЭКАНАМІЧНЫХ ЗМЕН ПЕРАКОНВАЕ: КАЛГАСЫ ПАВІННЫ ЗАЙМАЦЦА ВЫТВОРЧАСЦЮ. І ТОЛЬКІ...

**Беларускі навукова-даследчы інстытут эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу распрацаваў праект аграрнай рэформы. Падзея, магчыма, і не з разраду суперзначных. Колькі ўжо за апошнія гады нам розных праектаў і пражэктаў прапаноўвалі. Большасць з іх ператваралася ў мыльныя бурбалкі. І здаралася гэта, відавочна, найчасцей з-за таго, што рэчаіснасць настолькі здзіўляла сваёй непрадказальнасцю, наколькі здзіўлялі арыгінальнасцю планы, меркаванні таго альбо іншага праекта. Невядома, што здарыцца і са згаданай праграмай, правільней кажучы — яшчэ толькі з праектам аграрнай рэформы. Пагледзім. А пакуль жа — размова толькі пра характар сацыяльнага раздзела данай працы. Адказвае на пытанні загадчык сектара сацыяльнай палітыкі і развіцця вёскі Беларускага НДІ эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу кандыдат эканамічных навук Міхаіл АНТОНЕНКА.**

*— У праекце праграмы рэфармавання вы разам з калегамі адказвалі за раздзел, што датычыцца сацыяльнай сферы. Ведучы пра гэта роспыт, найперш хацелася б ведаць, чым кардынальна новым адрозніваецца сённяшні хаця б навуковы падыход да згаданай праблематыкі?*

— Мы не стараліся адкрываць Амерыку. Гледзячы на чужаземны вопыт, прыйшлі да высновы, што калгасы павінны займацца выключна вытворчасцю. І толькі...

*— Але ж вы і самі бываеце ў вёсцы і бачыце, што сялянам часам і са сваімі сацыяльна-бытавымі клопатамі болей, як у калгасную кантору, і падацца няма куды. Атрымліваецца, што старшыня, кіруючы гаспадаркай на данай тэрыторыі, адказвае за ўсё. І за транспарт для пенсіянераў, якім трэба прывезці дровы. І за рамонт дома. Што ўжо казаць пра дарогі і г. д.*

— Вось і дрэнна атрымліваецца. Вы

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## «І БУДЗЕМ ДУМЫ ДУМАЦЬ АБ САБЕ»

**НЯДАЎНА СПОЎНІЛАСЯ 105 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ УЛАДЗІСЛАВЫ ЛУЦЭВІЧ — ЖОНКІ ЯНКІ КУПАЛЫ. А 25-ГА ЛЮТАГА — БЫЎ ДЗЕНЬ ЯЕ СМЕРЦІ. ГЭТАЯ АСОБА ВАРТАЯ НАШАГА ЎСПАМІНУ...**

*У хаце ўжо маёй будзь гаспадыняй, —*
*Няма ў мяне нікога, проч цябе;*
*Сядзь на пачэсны кут, мая багіня,*
*І будзем думы думаць аб сабе.*

**Янка КУПАЛА.**



Каторы раз перачытваю паэму Купалы "Яна і я" — быццам п'ю жывую насалоду вечнасці, затканай у словах і запытах да самога сябе — за што чалавеку дадзена гэтулькі хараства... І чую паэтаў таемны адказ: каб адкрыў дзівосны свет для сябе і прывёў, як у замак, другога — сваю пару, палову. Каб усё рабілася поўным — ні адняць, ні дадаць. Дальбог, трэба мець найвялікшы талент, каб услаўляць кожным днём, кожным учынкам з'яўленне любага чалавека на зямлі. Каб рас-

НА ЗДЫМКУ: маладая Уладзіслава Францаўна і Янка КУПАЛА.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ПРЫСЯГА СУДДЗЯЎ

Урачыстая цырымонія прынядця прысягі суддзямі Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь адбылася 4 сакавіка ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы ў Вайсковым завулку. Згодна з заканадаўствам, гэту прысягу прымаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў прысутнасці Старшыні Савета Рэспублікі Паўла Шыпука і Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоля Малафеева.

Прэзідэнт запэўніў суддзяў, што ён будзе аказваць ім усямернае садзейнічанне ў рабоце на карысць дзяржавы. Кіраўнік дзяржавы ўручыў канстытуцыйным суддзям падарунковыя экзэмпляры Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь з асабістым подпісам.

Ад імя Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выступіў Старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук. Ён пажадаў суддзям цвёрдасці духу і ўпэўненасці ў сабе і адзначыў, што пры вырашэнні складаных задач яны не павінны забываць, што за іх словам і справай стаяць інтарэсы Беларусі, дабрабыт народа.



НА ЗДЫМКУ: членаў Канстытуцыйнага суда віншуе Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Павел ШЫПУК.

*"На вялікі жаль, абстаноўка застаецца вельмі складанай і супярэчлівай. Колькасныя паказчыкі развіцця эканомікі не дапаўняюцца ростам якасных паказчыкаў. Маецца на ўвазе стратнасць вытворчасці, нізкая рэнтабельнасць, вялікая дэбіторская і крэдыторская запазычанасці, праблемы ў аплаце працы і своечасовай выплаце заробкаў.*

*Трэба адзначыць, што ў выніку росту цэн у снежні, студзені і першай палове лютага (а цэны за гэты перыяд павялічыліся амаль на 30 працэнтаў) рэзка знізіўся ўзровень рэальнай заработнай платы. Пад пагрозай зрыву знаходзяцца асноўныя сацыяльныя паказчыкі, прадугледжаныя Генеральным пагадненнем, а таксама асноўныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 1997 год. У гэтых дакументах, нагадаю, гаворыцца аб росце рэальнай зарплаты. А на самай справе адбываецца яе паніжэнне. Разам з тым паказчыкі вытворчасці (у тым ліку валавога ўнутранага прадукту, выпуску прамысловай прадукцыі) у студзені выкананы. Словам, супярэчнасць паміж колькаснымі паказчыкамі вытворчасці, з аднаго боку, і паніжэннем узроўню жыцця насельніцтва, з другога, відавочная".*

*(З гутаркі намесніка старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Франца ВІТКО з карэспандэнтам "Звязды").*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 181

### АБ УСТАНАЎЛЕННІ ДЗЯРЖАЎНАГА СВЯТА — ДНЯ ЯДНАННЯ НАРОДАЎ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

У сувязі з утварэннем 2 красавіка 1996 года Супольніцтва Беларусі і Расіі і кіруючыся пунктам 18 артыкула 84 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, пастанаўляю:

1. Устанавіць дзяржаўнае свята — Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі і штогод адзначаць яго 2 красавіка.
2. Гэты ўказ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.

*5 сакавіка 1997 г. г. Мінск.*

ІТАЛЬЯНЦЫ Ў БЕЛАРУСІ

## «МЫ ПРЫБЫЛІ ЯК СЯБРЫ»

5 сакавіка ў Мінск прыбыла дэлегацыя парламента Італьянскай Рэспублікі на чале з віцэ-прэзідэнтам Палаты дэпутатаў Клементэ Мастэлам. У праграме трохдзённага знаходжання італьянцаў на Беларусі запланаваны сустрэчы з вышэйшым кіраўніцтвам нашай краіны, прадстаўнікамі МЗС, Мінюста і Міністэрства адукацыі.

"Мы рады вашаму візіту", — заявіў пасля гутаркі з дэлегацыяй італьянскага парламента Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Гэта сустрэча адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы 6 сакавіка.

Аляксандр Лукашэнка шчыра прывітаў італьянскіх заканадаўцаў, якія ўпершыню наведалі нашу краіну, і выказаў упэўненасць, што знаходжанне ў рэспубліцы дасць магчымасць гасцям даведацца шмат новага і цікавага аб Беларусі і яе гасцінным народзе. "Я расцэньваю ваш візіт як вельмі важны, таму што вы самі можаце пераканацца ў стабільнасці нашай дзяржавы, зацікаўленасці яе кіраўніцтва ў функцыянаванні і дэмакратызме нашага парламента — новага парламента маладой і незалежнай дзяржавы", — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. Ён адзначыў, што быў выбраны Прэзідэнтам, з'яўляючыся дэпутатам беларускага парламента, таму работа заканадаўцаў блізкая яму.

Кіраўнік дэлегацыі намеснік Старшыні Палаты дэпутатаў італьянскага парламента Клементэ Мастэла падзякаваў Прэзідэнту за гэту магчымасць сустрэцца з кіраўніком дзяржавы і абмеркаваць праблемы, якія датычаць двухбаковага супрацоўніцтва Італіі і Беларусі. Пры гэтым ён падкрэсліў, што члены дэлегацыі прыбылі ў нашу краіну як сябры і спадзяюцца бліжэй пазнаёміцца з рэспублікай, яе людзьмі і праблемамі.

У час гутаркі бакі абмеркавалі пытанні, звязаныя з пашырэннем палітычных і эканамічных кантактаў паміж дзвюма краінамі, паглыбленнем міжпарламенцкіх сувязей.

ЗАЯВА ДЗЯРЖАЎНАГА ДЭПАРТАМЕНТА ЗША

## ЗМЕНА ПАЛІТЫЧНАГА КУРСА

28 лютага пасольства ЗША ў Мінску апублікавала заяву Дзяржздэпартамента ЗША аб пераглядзе амерыканскай палітыкі ў адносінах да Беларусі пасля праведзенага ў нас рэферэндуму. Раней урад ЗША даваў да ведама кіраўніцтва Беларусі аб змяненні сваёй палітыкі.

Дзяржздэпартамент ЗША заяўляе аб сваёй заклапочанасці тым, што адбывалася ў апошнія месяцы ў нашай краіне, і лічыць мінулагодні рэферэндум "несапраўдным і недэмакратычным". Раней дзяржздэпартамент ЗША прысвяціў 19 старонак свайго даклада праблеме правоў чалавека ў Беларусі, у якім выказаў заклапочанасць пагаршэннем сітуацыі ў гэтай галіне. Зноў жа, асноўныя спасылкі былі на мінулагодні рэферэндум. Улады ЗША зазначаюць, што, на іх погляд, Беларусь вяртаецца да метадаў аўтарытарнага кіраўніцтва часоў СССР, што ў нас абмяжоўваецца свабода слова, шэсцяў, недатыкальнасць дэпутатаў і інш.

"Адыход Беларусі ад гэтых прынцыпаў у значнай ступені ізаляваў яе ад сусветнай супольнасці і звузіў рамкі канструктыўных адносін са Злучанымі Штатамі", — адзначаецца ў заяве Дзяржздэпартамента ЗША. Сутнасць новай палітыкі ЗША ў адносінах да Беларусі заключаецца ў тым, што палітычныя кантакты паміж двума бакамі на высокім узроўні з гэтага часу будуць рэдкімі, дыпламатычныя адносіны будуць ажыццяўляцца толькі на ўзроўні іх адпаведнасці мэтам ЗША. Кантакты з парламентам і Канстытуцыйным судом Беларусі, метады фарміравання якіх не прызнаюцца ў ЗША законнымі, будуць зведзены да мінімуму, "неабходнага для вядзення істотных спраў". Зменіцца таксама праграма па супрацоўніцтву ў ваеннай галіне, ЗША адмаўляюцца ад планавання альбо страхоўкі сваіх інвестыцый у нашу краіну, прыпыніе дзейнасць у нашай краіне амерыканскае агенцтва па гандлю і развіццю, а таксама спыняецца фінансаванне "Эксімбанкам" беларускіх суб'ектаў, урад ЗША заклікае патэнцыяльных інвестараў у нашу краіну шукаць магчымасці ў суседніх дзяржавах.

ТАЯМНІЦА РЭЛІКВІІ

## КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ МОЖА ЗНАХОДЗІЦЦА Ў РАСІІ

Нацыянальную рэліквію Беларусі — крыж Ефрасінні Полацкай, які бясследна знік у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны, трэба шукаць у Расіі. Аб гэтым заявіў Інтэрфаксу кіраўнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ Беларусі Генадзь Сянюкоў.

Паводле яго слоў, надзею на вяртанне святыні беларускія спецслужбы ў немалой ступені звязваюць з прыняццем Дзяржадумай РФ Закона аб культурных каштоўнасцях, перамешчаных у СССР у выніку другой сусветнай вайны.

Крыж быў выкананы майстрам-ювелірам Лазарам Богшам і падораны ў XII стагоддзі княгіні Ефрасінні Полацкай. Па паданню, праклацце вісела над кожным, хто спрабаваў несправядлівым шляхам завалодаць крыжам. Так, захапіўшы яго ў якасці трафея ў адной з бітваў, рускі цар Іван Грозны не асмеліўся пакласці крыж у свае скарбніцы і вярнуў палачанам.

У пачатку 1941 года культавыя каштоўнасці з усіх храмаў Беларусі былі звезены ў Магілёў і змешчаны на захаванне ў пакой-сейф гарадскога абкома кампартыі.

Па адной з распрацоўваемых КДБ Беларусі версій, каштоўнасці з сейфа былі эвакуіраваны ў Маскву і дастаўлены ва Упраўленне кадраў Чырвонай Арміі на Ленінскіх гарах. Далейшы лёс каштоўнасцей невядомы.

Супрацоўнікі кампетэнтных органаў рэспублікі выключаюць версію, па якой крыж мог "сплысці" па "лэнд-лізу" за акіян і цяпер знаходзіцца ў прыватнай калекцыі на Захадзе.

Г. Сенюкоў мяркуе, што крыж захоўваецца ў запасніках Дзяржаўнага Эрмітажа ў Пецярбургу або музеях Уфы і Самары. Менавіта там у гады Вялікай Айчыннай вайны знайшлі прыстанішча архівы Магілёўскага абкома партыі.

КАСЦЮКОВІЦКІ ЦЭМЕНТАВЫ



Беларускі цэментавы завод у Касцюковічах, які ўступіў у строй дзеючых у канцы мінулага года, — гэта гігант, здольны выпускаць да 1 200 тысяч тон высакаякаснага цэменту ў год. Праўда, гэта стане магчымым пасля выхаду прадпрыемства на праектную магутнасць, а пакуль, выпусціўшы першыя 15 000 тон цэменту, на заводзе плануюць да лета пакрыць усе затраты, звязаныя з пускам прадпрыемства.

НА ЗДЫМКАХ: Беларускі цэментавы — у страі; на цэнтральным пульце кіравання вытворчасцю — інжынеры-тэхнолагі Ірына МАХНАТКІНА, Галіна АРАПАВА і Вольга ЛІ.



ВЫЗНАЧЫЦЬ ЛЕПШЫХ

## НА ЗЛЁТ У ЧЭХІЮ

Чарговы рэспубліканскі злёт юных фізікаў адкрыўся на базе гімназіі Барысава, якая па праву лічыцца адной з лепшых сярэдніх навучальных устаноў у рэспубліцы. Арганізатарам злёту выступіў Беларускі фонд Сораса.

Як паведаміла загадчыца навучальнай часткі гімназіі Наталля Шапавалава, сёлета на "фізбой" прыехалі 12 лепшых каманд з усіх куткоў Беларусі. Здзіўляць сваімі ведамі на гэты раз будуць вундэркінды 10-х і 11-х класаў. У складзе журы — прадстаўнікі Міністэрства адукацыі рэспублікі і Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Перад імі стаіць нялёгкая задача — вызначыць мацнейшую каманду, якая будзе прадстаўляць нашу рэспубліку на сусветным злёце юных фізікаў у Чэхіі.

Дарэчы, усе пераможцы мінулагодняга злёту юных фізікаў сталі студэнтамі БДУ.

НА ГРАНІЦЫ

## БУЙНАЯ ПАРТЫЯ КАНТРАБАНДЫ

Падчас аперацыі "Зіма-97", якая гэтымі днямі праходзіць на Дзяржаўнай мяжы рэспублікі, пагранічнікі атрада пагранкантролю "Брэст", дзейнічаючы сумесна з супрацоўнікамі мытні, затрымалі каля сарака тон кантрабанднай касметыкі. Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў, імпартныя духі, крэмы, шампуні перавозілі ў грузавым "Мерседэсе" з Германіі ў Расію пад выглядам дзіцячых памперсаў. У двух кантэйнерах касметыкі аказалася на суму каля 2 мільярдаў рублёў.



**Каля 40 школьнікаў займаецца ў авія-суднамадэльным гуртку пры Ваўкавыскім цэнтры тэхнічнай творчасці. Магчыма, нехта з іх стане ў будучыні славутым канструктарам, а пакуль дзеці будуюць мадэлі ў мініяцюры, якія не раз былі ўдастоены прызавых месцаў на рэспубліканскіх і абласных спаборніцтвах.**

**НА ЗДЫМКУ: на працягу дзесяці гадоў перадае дзецям сваё майстэрства і веды выкладчык Віктар БАРТКЕВІЧ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# ПАПЕРЫ НА МАЁМАСЦЬ, ЦІ МАЁМАСЦЬ НА ПАПЕРЫ

У Беларусі завяршылася выдача імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Бадай, усім вядома: працэс усякага дзеляжу — працэдура надзвычай складаная і балючая. Нават калі дзеліцца пароўну, і тады ў некага можа ўзнікнуць пытанне: "А чаму, уласна, пароўну?" У выпадку "кожнаму — па заслугах" — справа ўвогуле набывае канфліктны характар: з'яўляюцца тыя, хто жадае ўхапіць сабе болей, адпаведна адняўшы штосьці ў блізкага. Усё гэта яшчэ можна было б зразумець у дачыненні да асобных грамадзян. Але калі ў ролі галоўнага "дзяпільшчыка" выступае дзяржава, незразумела, чаму яна, прызваная абараняць свой народ, так імкнецца яго "аблапошыць". Можа таму, што ў нас дзяржава — гэта, у першую чаргу, чыноўнікі, у руках якіх дагэтуль і было сканцэнтравана ўсё багацце краіны. Яны добра разумеюць: валоданне маёмасцю і ёсць сапраўдная ўлада, развітвацца з якой нікому не хочацца. Тым больш "пошаднымі" грамадзянамі камандаваць значна цяжэй, чым "безпошаднымі", людзьмі залежнымі, а таму заўсёды пакорлівымі і паслухмянымі.

Калі было абвешчана, што дзяржава вырашыла падзяліць пэўную частку агульнага дабра паміж грамадзянамі краіны, каб тыя зрабіліся ўласнікамі (калі не багацеямі, то, прынамсі, людзьмі заможнымі), многія пачалі спадзявацца на хуткае паляпшэнне асабістага дабрабыту. Але нічога падобнага не здарылася: можа таму, што пірог, прызначаны для дзяльбы, аказаўся беднаватым, а можа, давалі так, каб нічога не даць. Тым не менш 73 працэнты жыхароў краіны, або 5,8 мільёна чалавек, звярнуліся за налічэннем чэкаў. Першымі, вядома, людзі ва ўзросце, пенсіянеры: спадзяваліся такім чынам забяспечыць прыстойную старасць. Маладыя ж не спяшаліся: і дзяржаве не вельмі давяралі, і, добра разумеючы стан эканомікі, не бачылі ў гэтых чэках ніякага практычнага сэнсу, а таму не хацелі губляць час на стаянне ў чэргах для афармлення адпаведных даведак. І, мабыць, мелі рацыю: 72 працэнты ад усіх грамадзян, што атрымалі чэкі, не ведаюць, што з імі рабіць. Папяровыя чэкі на справе пакуль застаюцца проста паперкамі.

# ПАТРЭБА ЭКАНАМІЧНЫХ ЗМЕН ПЕРАКОНВАЕ: КАЛГАСЫ ПАВІННЫ ЗАЙМАЦЦА ВЫТВОРЧАСЦЮ. І ТОЛЬКІ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

можаце сабе ўявіць, што пэўны завод займаецца жыллёва-камунальнымі клопатамі сваіх рабочых? Напрыклад, рамантуе водаправод, сістэму каналізацыі ці робіць што іншае ў гэтай побытавай сферы? Дзіўнае, зразумела, пытанне. А вось калгас моўчкі ўзваліў на свае плечы ўсе гэтыя клопаты. Пры тым, што ніхто не здымае з сельскіх суб'ектаў гаспадарання падаткаў. Выходзіць, што калгас плаціць як быццам двойчы. Спярша — у бюджэт, з разлікам, што выплаты павінны ісці і на сацыяльную сферу. А пасля яшчэ і займаецца сам гэтай сферай.

— *Вы прапаноўваеце скараціць падаткі?*

— У даным выпадку размова зусім не пра падаткі. А пра тое, каб разгрузіць калгасы. Мы крытыкуем гаспадаркі за пастаянныя дзяржаўныя датацыі. А паглядзіце, колькі калгасы і саўгасы ўзялі на сябе неўласцівых ім функцый. Быў час, калі багатыя гаспадаркі ўтрымлівалі Палацы культуры, клубы, уводзілі штатныя адзінкі культурна-асветніцкіх работнікаў. А дзіцячыя сады — колькі грошай, матэрыяльных высілкаў патрабуюць яны?

— *Але ж і ў горадзе заводы мелі, як вядома, дзіцячыя сады, яслі...*

— Гэта раней. Сёння ж заводы ў большасці сваёй перадалі сады на баланс мясцовых улад. Паменшала і заводскіх сталовых. Так павінна быць і на вёсцы: адказваць за развіццё сацыяльнай інфраструктуры павінны мясцовыя органы ўлады. Часта крытыкуюць сельскія саветы, што, маўляў, у іх няма рэальнай улады. Таму і няма, што ніякай уласнасцю яны не распараджаюцца, нічым не апякуюцца.

Згодна з праектам мы прапаноўваем стварыць сацыяльныя агенцтвы, якія б распараджаліся бюджэтнымі сродкамі. Частка расходаў фінансавалася б за кошт насельніцтва. Другая палова — з бюджэтнай кішэні. За мяжою, у тых жа ЗША, з падаткаў утвараецца спецыяльны фонд, які і фінансуе большасць сацыяльных праблем сельскага насельніцтва.

— *Безумоўна, рацыянальнае зерне ў вашых развагах, у прапановах да абмеркавання ёсць. Але ж ці не падаецца вам, што шлях да вырашэння праблемы можа аказацца наўздзіў доўгім?*

— І нават пры самым песімістычным спадзяванні ўсё ж працаваць, планаваць, праектаваць, шукаць і ў некага (у першую чаргу — на вопыце багатых краін) вучыцца ўсё ж трэба. А што датычыць нашага асэнсавання рэалій вясковага жыцця, то, канешне ж, да тае пары будзе гібець сацыяльная сфера, пакуль сур'ёзна не будзе распачата рэфармаванне форм гаспадарання. Сацыяльная сфера можа стаць новай, задавальняючай вясковых жыхароў толькі пры ўмове рэфармавання калгасаў. Не іначай.

— *Хацелася б даведацца, а ці ўлічваеце вы ў сваіх праектах думкі, меркаванні саміх вясковых жыхароў?*

— Калі б мы працавалі на гараджан, то тады можа і не ўлічвалі б. А так — зразумела ж, імкнёмся абапірацца на грамадскую думку вясковага насельніцтва.

— *І што паказваюць апошнія сацыялагічныя апытанні?*

— Недзе каля трох чвэрцяў жыхароў вёскі выступае за рэфармаванне калгасаў у той ці іншай ступені.

— *А калі гаварыць болей выразна, то якая частка вясковага насельніцтва гатова была б заняцца фермерствам?*

— Недзе каля 10 працэнтаў. Дарэчы, лічба гэтая трымаецца ўжо болей трох гадоў. Тут вось што хацелася б заўважыць. Менавіта змена формы ўласнасці вядзе да змены псіхалогіі чалавека. Думаю, што фермер, навучаны лічыць кожную капейку, ужо не пойдзе да калгаснага старшыні прасіць машыну "за так". Сёння ж часам мы проста не задумваемся, што задавальненне той ці іншай патрэбы вымагае ці то грашовых, ці то матэрыяльных выдаткаў.

— *Міхаіл Мікалаевіч, з вамі нельга не пагадзіцца, што сацыяльнае развіццё вёскі павінна разглядацца ў кантэксце рэформы ўсяго аграпрамысловага комплексу...*

— І больш таго. Трэба разумець рэформу як шматпланавую і шматгранную сістэму арганізацыі, фінансавання і кіравання дзяржаўнай праграмай развіцця эканомікі, вытворчасці і сацыяльнай інфраструктуры.

— *Толькі вось — і я думаю, што вы гэта цудоўна разумееце — пікантнасць сённяшняй сітуацыі заключаецца ў тым, што працэс перадачы, калі можна так сказаць, сацыяльных функцый мясцовым органам улады прыпадае на той час, калі жывыя, гаротныя, абяздоленыя людзі могуць і ў калгасе падтрымкі ніякай не атрымаць, і ад сельсавета нічога не дачакацца.*

— Мяккасць рэформ у эканоміцы, прамысловасці, а хутчэй — кволасць іх прывялі да таго, што мы сёння маем па ўсёй краіне. Так будзе і ў сельскай гаспадарцы, тым болей — у побытавым вясковым жыцці. Банкруцтва калгасаў стане і банкруцтвам сацыяльнай сферы. Іншая справа, што выйсце трэба шукаць на такім зрэзе: сацыяльнае развіццё павінна апярэджваць астатнія накірункі рэфармавання аграпрамысловага комплексу.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# «КРЫШКУ» ПАДМАНУТЫ МІЛЬЁН ГРАМАДЗЯН

**Начальнік упраўлення чэкавай прыватызацыі Міндзяржмаёмасці Зінаіда ШАЎЧЭНКА адказвае на пытанні журналіста Святланы КАРПЯКОВАЙ.**

— *Як актыўна грамадзяне Беларусі ўдзельнічаюць сёння ў працэсе прыватызацыйнага рэфармавання, г. зн. становяцца ўласнікамі дзяржаўнай маёмасці?*

— На жаль, з 1,3 мільёна чалавек, што паспелі распарадзіцца сваімі чэкамі, выкарысталі іх па мэтаваму прызначэнню, гэта значыць абмянялі на акцыі прыватызуемых прадпрыемстваў, толькі 448 тысяч чалавек. 57 тысяч аддалі перавагу ўдзелу ў чэкавай прыватызацыі праз спецыялізаваныя інвестыцыйныя фонды. Астатнія ж падарылі ці прадалі свае чэкі. Прычын, па якіх нашы грамадзяне не ўдзельнічаюць у чэкавай прыватызацыі, нямала. Галоўныя — нізкія тэмпы рэфармавання дзяржаўнай уласнасці, непаслядоўнасць прыватызацыйнай палітыкі, крайне недастатковая прапаганда чэкавай прыватызацыі, непрывабнасць значнай часткі прыватызуемых прадпрыемстваў, недавер да эканамічных рэформаў. Перыяд абарачэння чэкаў працягнецца да 1 ліпеня 1999 года. На першы погляд, можа здацца, што часу хапае. Аднак сёння яшчэ не выкарысталі свае чэкі больш 72 працэнтаў грамадзян, а гэта 4,5 мільёна чалавек. За два гады, што засталіся, трэба будзе забяспечыць абмен 417 мільёнаў чэкаў на долі (паі, акцыі) прыватызуемых прадпрыемстваў. Гэта значыць, у год трэба абменьваць па 208,5 мільёна чэкаў. Між тым за 3 гады абменена ўсяго 67 мільёнаў чэкаў, гэта значыць сярэднегадавы вынік — 22 мільёны чэкаў. Такім чынам, няцяжка падлічыць, што тэмпы работ павінны быць паскораны амаль у дзесяць разоў.

— *Магчыма, паскарэнню гэтых тэмпаў будзе садзейнічаць тое, што 31 снежня 1996 года ўрад зацвердзіў пералік 125 прадпрыемстваў, якія поўнасцю ці часткова будуць прапанаваны для прыватызацыі за чэкі "Маёмасць"?*

— Я не думаю, што імі зацікавяцца шырокія слаі насельніцтва: у спісе няма ніводнага харчовага, перапрацоўчага прадпрыемства, далёка не ў кожнага з прапанаваных аб'ектаў ёсць рэальныя перспектывы. У іншых жа прыватызуемых прадпрыемствах, не ўключаных у гэты пералік, чэкі ўкладваюцца толькі працоўнымі калектывамі — астатнім, што называецца, уваход забаронены. Для іх прызначаны толькі акцыі прадпрыемстваў з вышэйпаказанага пераліку, большая частка якіх — арэндныя. А доля дзяржуласнасці ў арэндных прадпрыемствах сёння пакуль увогуле невядомая. Да таго ж не выключана, што палавіна з іх — на мяжы банкруцтва: ёсць маёмасць, але даўгоў значна больш.

Я не ведаю, якой будзе канчатковая рэдакцыя праграмы прыватызацыі на 1997 год. Калі на першае месца зноў будзе пастаўлена жаданне працоўнага калектыву, то праграма можа з поспехам праваліцца. Калі дырэктар, напрыклад, згадзіўся акцыянаваць сваё прадпрыемства за чэкі, то ніхто не дасць гарантыі, што на сходзе працоўны калектыў не выкажа іншае меркаванне. Дарэчы, за пяць гадоў усе праграмы прыватызацыі ў нас правалены. Гэта значыць, уключалі ў пералік прадпрыемствы, якія падлягалі раздзяржаўленню і прыватызацыі, а потым 80 працэнтаў з іх выключалася.

У пастанове Міндзяржмаёмасці прадпісваецца ў другім паўгоддзі, пасля завяршэння выдачы чэкаў, дапоўніць спіс прадпрыемстваў, якія падлягаюць прыватызацыі за чэкі. А што зменіцца за гэты час, за паўгоддзе? Мы ведаем, што ў нас налічана 480 мільёнаў чэкаў. І ведаем, што большасць іх будзе атрымана. Дзе тады Міндзяржмаёмасць знойдзе прадпрыемстваў яшчэ на 300 мільёнаў чэкаў? Любое прадпрыемства і міністэрства запярэчаць: урад сфарміраваў пералік — вось і прыватызуйце. А як? Калі мы за мінулыя гады прыватызавалі 917 прадпрыемстваў, якія забяспечылі абмен толькі 130 мільёнаў чэкаў, то наўрад ці 125 прадпрыемстваў змогуць забяспечыць абмен астатніх 300 мільёнаў. А 1997 год — рашаючы. У 1998-м мы павінны займацца ўжо толькі абменам чэкаў на акцыі, бо ў нашых умовах на гэта спатрэбіцца не месяц, а як мінімум год. Таму неабходна сёлета асноўную работу па рэфармаванню дзяржпрадпрыемстваў, што падлягаюць чэкавай прыватызацыі, завяршыць, а потым ужо разбірацца з абменам чэкаў на акцыі.

— *Існуе і яшчэ адна праблема чыста прыкладнога характару. Нават атрымаўшы чэкі, людзі часта не ведаюць, што з імі рабіць і што азначае пакупка акцый таго ці іншага прадпрыемства. Я не кажу ўжо пра інфармацыю аб дзейнасці прадпрыемстваў, што прапаноўваюцца да акцыянавання.*

— Магу толькі здагадвацца, чаму ў нас такая мізэрная інфармацыя ў гэтай сферы. Чаму маўчаць тэлебачанне і масавыя газеты, чаму насельніцтва можа атрымліваць інфармацыю аб чэках толькі ў спецыялізаваных эканамічных выданнях? І нават людзі, больш ці менш эканамічна адукаваныя, часта не ведаюць, што рабіць з чэкамі. У той жа час акцыі і досыць прэстыжных прадпрыемстваў усляпую ніхто не хоча купляць. Так, у "Беларусбанку" ёсць праспекты эмісій, якія выпускаюцца ў момант рэгістрацыі акцый. Аднак да сённяшняга дня прадаюцца акцыі толькі 1994 года, і гэтыя праспекты эмісій ужо састарэлі. Да таго ж у іх змешчаны ў асноўным агульныя даныя, і звесткі, напрыклад, аб прыбытках і стратах таксама, натуральна, састарэлі. Акцыі 1994 года ёсць толькі таму, што людзі чакаюць інфармацыі пра лепшыя прадпрыемствы. Але пасля з'яўлення пераліку, аб якім мы гаварылі, ім давядзецца зрабіць канчатковы выбар.

Хочацца верыць, што ўрад не дапусціць, каб чарговы раз нехта адчуў сябе "крышачку" падманутым дзяржавай. Бо на гэты раз размова ідзе ўжо пра мільёны грамадзян, якія паверылі ў ідэю чэкавай прыватызацыі.

ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ



# У ПЕСНІ ЎСЯ ЯГО ДУША

*"Затое і потым, як былі, — будзем, —*
*Які ні загрыміць гром, —*
*Людзьмі, із тых людзей, што людзям,*
*Не хаваючы вачэй глядзяць у вочы."*

**А. ТВАРДОЎСКІ.**

Гэта была юбілейная дата Тараса Шаўчэнкі, калі я пачула голас Лявона Мурашкі, цяперашняга лаўрэата міжнароднага і рэспубліканскага конкурсаў вакалістаў, заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы, заслужанага артыста Літвы. Ён спяваў украінскія песні. З таго часу я не прапускала ніводнага канцэрта з яго ўдзелам, дзе б ён ні выступаў. Гэта і калядныя, і велікодныя канцэрты праваслаўнага хору Свята-Духава сабора, рэгентам якога з'яўляецца вядомы Леанід Адамавіч. У праграме хору — шэдэўры царкоўнай музыкі, творы Г. Львоўскага, М. Гальцісона, С. Дзегцярова, Д. Бартнянскага і іншых аўтараў, якія ўвасобілі ў сваіх творах узвышаную філасофскую лірыку, насычаную цёплым чалавечым пачуццём. І, вядома, канцэрты ў беларускіх згуртаваннях Віленшчыны, дзе часта выступае Л. Мурашка.

Леанід Адамавіч нарадзіўся ў мястэчку Сіняўка (тады гэта была Заходняя Беларусь), недалёка ад Міра, Нясвіжа, Клецка, у цэнтры Беларусі і беларускасці. Бацька Адам Міхайлавіч служыў у воласці, а пасля, каб пракарміць сям'ю, стаў рэгентам царкоўнага хору, у якім спявала і маці Леаніда Мурашкі — Аляксандра Аляксандраўна, і сястра Зоя. Ішлі гады. Нейкі час Мурашкі жылі ў Баранавічах. У Клецку Леанід Адамавіч закончыў пачатковую школу, тады 6 класаў, трэба было паступаць у гімназію. У 1936 годзе сям'я перабралася ў Вільню. З шасці гадоў Леаніда Адамавіча бралі ў царкоўны хор, у сям'і засвоіў музычную грамату, а пасля спяваў і ў школьным хоры.

Па вайне вярнуўся ў Вільню з гастроляў хор Рыгора Шырмы. Ён узяў многіх таленавітых віленчукоў. "Добра, што вы спяваеце, але вам трэба вучыцца", — сказаў Р. Шырма. Л. Мурашка паступіў у літоўскую кансерваторыю ў клас вядомага літоўскага спевака Кіпраса Пятраўскаса, а пасля і сам дваццаць пяць гадоў працаваў на месцы свайго настаўніка. На першым курсе кансерваторыі Л. Мурашку прынялі салістам у Літоўскую філармонію, а на апошнім курсе запрасілі і ў оперны тэатр Літвы. Першая роля ў тэатры — роля князя Грэміна ў оперы "Яўгеній Анегін". Гэта было ў 1950 годзе. Тады ў Вільню прыехаў знакаміты, унікальны барытон Вялікага тэатра з Масквы Павел Лісіцыян. Пра Л. Мурашку ён сказаў так: "Які малады і які цудоўны ў адказнай ролі маладога артыста ролі". Ён выконваў ролі больш чым у 1 500 спектаклях, даў больш за 6 000 канцэртаў, з якімі аб'ездзіў Л. Мурашка не толькі рэспублікі былога Савецкага Саюза. Цёплa прымалі яго ў Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Югаславіі, Іспаніі, Італіі, Англіі. Яшчэ зусім нядаўна ў Англіі, на берагах Тэмзы, дзе яго стрыечны брат Янка Даменік здаў у арэнду беларускаму пасольству маёмасць на 100 гадоў, Леанід Адамавіч спяваў беларускія песні.

У Л. Мурашкі унікальны дар драматычнага артыста, дар пераўвасаблення. У яго вельмі прыгожы тэмбр, шырокі дыяпазон голасу. Ён цудоўна адчувае нацыянальны характар музыкі, твора, які выконвае. А. Мурашка выканаў больш за 800 твораў розных аўтараў. У яго высокая культура выканання, разнастайныя канцэртныя праграмы больш чым на 10 мовах, ад лірычнага раманса, народнай песні да герачнай арыі. Добра адчувае нацыянальны характар музыкі, твора. Калі спявае, напрыклад, "Узяў бы я бандуру", украінскую песню, то становіцца ўкраінцам і спявае як украінец. Калі спявае рускую "Вдоль по Питерской", то адчуваецца шаляпінская шырыня. Калі спявае літоўскую, то становіцца літоўцам.

Нягледзячы на званні і рэгаліі, Леанід Адамавіч сапраўдны народны любімы артыст. І доўгіх яму яшчэ гадоў сваім цудоўным голасам і незвычайным талентам захапляць шматлікіх паклоннікаў, дарыць радасць і асалоду. Нам вельмі дарагі Л. Мурашка, як зямляк, як беларускі спявак.

А нядаўна вучні першага і пятага класаў беларускай школы пабывалі ў гасцях у знакамітага нашага суайчынніка. Вельмі цёпла нас прынялі ў доме, дзе мы адразу апынуліся ў свеце шматлікіх персанажаў, сыграных Леанідам Мурашкам, сувеніраў, прывезеных з многіх краін. Леанід Адамавіч аказаўся цудоўным суразмоўцам, вясёлым, хоць госці былі не зусім звычайныя, а маленькія паклоннікі яго таленту. І тут ён быў артыстам. Разам праспявалі некалькі беларускіх песень. Задавалі шмат цікавых, смешных і сур'ёзных пытанняў. Асабліва ўразіў расповяд пра краіны, у якіх гастраліраваў наш спявак. Напрыканцы нашай сустрэчы Леанід Адамавіч паабяцаў прыйсці ў нашу школу і паспяваць беларускія песні. "Абавязкова мы павінны сустракацца, бо вы наша будучыня, наша надзея", — сказаў ён.

Тут нельга не сказаць пра спадарыню Маргарыту Мурашкене — спадарожніцу жыцця Леаніда Адамавіча. Яна першы слухач і самы добразычлівы крытык. Больш за сорак гадоў яны ідуць разам па жыцці. У доме так адчуваецца цяпло яе рук, клопат гаспадыні. Усё ў кватэры з густам падабрана і размешчана. Асабліва ўразіў на сцяне вялікі мастацкі партрэт маладой і такой цудоўнай спадарыні Маргарыты.

Хутка праляцеў час. Вярталіся мы дамоў поўныя ўражанняў ад пачутага і ўбачанага. Было такое адчуванне, быццам мы дакрануліся да нечага таямнічага, незвычайнага.

**Леакадзія МІЛАШ,**
**настаўніца беларускай школы.**
г. Вільнюс.

**НА ЗДЫМКУ: у гасцях у Леаніда МУРАШКІ.**

# ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫЯ ПЕРЫЁДЫКІ ВІЦЕБШЧЫНЫ

Узяўшы да разгляду тэму існавання перыядычных выданняў Віцебшчыны гісторыка-краязнаўчага накірунку за апошнія 70 гадоў развіцця нашага грамадства, можна было чакаць, здавалася б, наяўнасці празмерна вялікай колькасці крыніц, якія будзе складана абагульніць, сістэматызаваць і падвергнуць аналізу. Аднак такое ўяўленне цалкам памылковае. За ўвесь тэрмін існавання савецкага і постсавецкага грамадства на тэрыторыі Віцебскай вобласці, якая зараз займае плошчу 40 тысяч квадратных кіламетраў і мае 1,5 мільёна жыхароў, было выдрукавана ўсяго 9 (!) зборнікаў пяці розных найменняў выданняў: два тамы альманаха "Віцебшчына", па два нумары часопісаў "Полоцкий летописецъ", "Мішпаха" і "Віцебскі сшытак", адзін нумар зборніка "Браслаўскія сшыткі" (да разгляду намі не браліся адмысловa літаратурныя, філасофскія ды іншыя выданні, у якіх іншым разам змяшчаюцца асобныя гісторыка-краязнаўчыя артыкулы). Паміж выданнем апошняга нумара "Віцебшчыны" (1928) і першага нумара "Полоцкого летописца" (1992) — адлегласць у 64 гады, калі на тэрыторыі паўночнай Беларусі ніякія перыёдыкі па азначанай тэматыцы ўвогуле не выходзілі.

Спецыялізаваныя перыядычныя выданні заўсёды вельмі яскрава адлюстроўваюць стан рэчаў, што існуе ў той ці іншай галіне навукі на час іх выхаду ў свет. Зборнік "Віцебшчына" (першы том выйшаў у 1925 годзе, другі — у 1928 годзе) быў "неперыядычным органам Віцебскага акругова таварыства краязнаўства", створанага восенню 1924 года, на якім ёсць сэнс спыніцца больш падрабязна. Таварыства краязнаўства ставіла мэтай "усебаковае вывучэнне Віцебскай акругі ў культурна-гістарычным, прыродазнаўчым і эканамічным стасунках". Калі раней (у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў) у цэнтры ўвагі беларускіх краязнаўцаў знаходзіліся пераважна пытанні гісторыі, этнаграфіі і аховы помнікаў, то ў 1920-я гады кола краязнаўчых праблем пашырылася за кошт пытанняў прыродазнаўства і эканомікі. Пры акруговым таварыстве краязнаўства вельмі актыўна дзейнічалі светазнаўчая секцыя і энтамалагічнае бюро на чале са знаным навукоўцам-энтамолагам У. Плюшчэўскім-Плюшчыкам. Гэта, адпаведна, адбілася і на змесце перыёдыка таварыства: каля 30 працэнтаў першага тома "Віцебшчыны" было прысвечана прыродазнаўчым матэрыялам.

Яшчэ адну важную для сябе задачу Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства бачыла ў дапамозе "новай беларускай школе краязнаўчым матэрыялам". У гэтым сэнсе паказальным з'яўляецца ўжо тое, што свае раённыя аддзяленні таварыства арганізоўвала праз раённыя аддзелы народнай асветы. Імкнучыся зрабіць школу "першастковаю краязнаўчаю ячэйкаю", на старонках зборніка рэдакцыйная рада змяшчала праграмы вывучэння мясцовых рэк, азёр ды балотаў, фенагічных назіранняў, апісання паселішчаў; апытальныя лісты для выяўлення і рэгістрацыі помнікаў гісторыі і культуры; "лясную анкету" і розныя метадычныя парады, часам перадрукоўваючы іх з іншых крыніц ("Курс белорусоведения". М., 1918-1920; часопіс "Краеведение", № 2, 1923 г. і г. д.).




Пераважную большасць сяброў таварыства складалі вучні і настаўнікі 7-гадовых школ і тэхнікумаў Віцебскай акругі, якія ў асноўным не мелі вопыту краязнаўчай і тым больш даследчай працы. Гэты акт відавочна праглядваецца на саставе ўдзельнікаў Віцебскай акруговай краязнаўчай канферэнцыі, якая праходзіла 26—27 красавіка 1925 года. Сярод 154 дэлегатаў асобы без стажу краязнаўчай працы і са стажам да аднаго года складалі каля 85 працэнтаў. З прысутных на канферэнцыі толькі 9 чалавек мелі ўласныя навукова-папулярныя працы і яшчэ 11 карэспандэнты ў газеты па пытаннях краязнаўства. Выходзячы з апошняй акалічнасці, становіцца зразумелым, якую цяжкую працу давялося правесці старшыні таварыства Міколе Касперовічу, каб наладзіць выданне не толькі зборніка "Віцебшчына", але яшчэ і серыі папулярных брашур.

Значную частку матэрыялаў першага тома "Віцебшчыны" складаюць тэксты дакладаў, прачытаных на агульных сходах акругова таварыства краязнаўства або падчас працы яго асобных секцый і канферэнцыі. Касцяк аўтараў выдання склалі даследчыкі старой школы — А. Сапуноў, У. Краснянскі, М. Багародскі, а таксама навукоўцы новай генерацыі — Б. Брэжга, М. Шчакаціхін, І. Фурман, І. Гаўрыс.

Віцебскі сшытак




Пагаршэнне палітычнай сітуацыі ў краіне і ўсталяванне ў канцы 1920-х гадоў у СССР асабістай дыктатуры Сталіна выключна негатыўна адбіліся на далейшым лёсе выдання. Многія публікацыі другога тома "Віцебшчыны" неслі на сабе ўжо выразна вызначаны адбітак марксісцкай метадалогіі, многія галіны мінулага зусім выключаліся з поля зроку даследчыкаў, перавага надавалася пытанням сацыяльнай гісторыі. У 1932 годзе Віцебскае акруговае таварыства краязнаўства ўвогуле перапыніла сваё існаванне, многія яго сябры былі рэпрэсіраваны. Справа выдання гісторыка-краязнаўчых перыёдыкаў на Віцебшчыне перарвалася больш як на шэсць дзесяткаў гадоў.

Краязнаўчы рух на Віцебшчыне працягваў існаваць і ў гэтыя дзесяцігоддзі. Аднак яго галоўным аб'ектам на афіцыйным узроўні стаў гераізм савецкага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Гістарычнае, літаратурнае, прыродазнаўчае ды іншае краязнаўства стала доляй толькі асобных навукоўцаў ды апантаных справай аматараў-самавукаў. У снежні 1989 года ў Мінску было створана Беларускае краязнаўчае таварыства, зарэгістраванае Мінюстам БССР толькі ў чэрвені 1991 года. У студзені 1991 года ўтварылася Віцебскае абласное краязнаўчае аб'яднанне. Аднак актыўнай і шырокамаштабнай працы ні адна, ні другая арганізацыя не змаглі наладзіць да гэтай пары.

У часы існавання савецкага грамадства функцыю пэўных навукова-метадычных цэнтраў краязнаўства больш-менш паспяхова выконвалі музеі. Таму, напэўна, не выпадковым з'яўляецца той факт, што стваранне большасці гісторыка-краязнаўчых перыёдыкаў Віцебшчыны ў постсавецкі час было ініцыявана музейнымі супрацоўнікамі. Спынімся больш падрабязна на разглядзе гэтых выданняў.

Першым па часе з'яўлення быў гісторыка-літаратурны часопіс "Полоцкий летописецъ", заснавальнікам і рэдактарам якога выступіў маладзы навуковы супрацоўнік Полацкага краязнаўчага музея Леў Даньо. Усяго выйшла два нумары выдання (у 1992 і 1993 гадах, абодва накладам 3 000 экземпляраў). Паводле задумы стваральнікаў, часопіс павінен быў асвятляць пытанні гісторыі Полацкай зямлі, якой, як адзначалася ва ўступным слове рэдактара ў першым нумары, настаў час прысвяціць "не только разрозненные публикации, а попытаться собрать воедино (...) все акты и сведения, документы и материалы". Сапраўды, для беларускай савецкай гістарычнай навукі была характэрная амаль што поўная і надзвычай устойлівая адсутнасць цікавасці да гісторыі асобных гарадоў і паселішчаў краіны, дзякуючы чаму гэтая тэма зрабілася амаль выключнай прэрагатывай занятак краязнаўцаў. Выключэнне складалі хіба што толькі археалогія ды гісторыя архітэктуры. Варта адзначыць, што жаданне абагульніць і прапагандаваць набыткі папярэднікаў стала агульнай мэтай усіх рэгіянальных выданняў, што ўзніклі ў Беларусі на пачатку 1990-х гадоў.

Амаль траціну матэрыялаў першага нумара "Полоцкого летописца" склалі перадрукі яшчэ дарэвалюцыйных прац гісторыкаў і краязнаўцаў Полаччыны. Вядома, што храналагічная дыстанцыяванасць даўно ўжо перавяла гэтыя матэрыялы ў разрад бібліяграфічных каштоўнасцей, вартых актыўнай папулярызацыі. Аднак пазіцыя большасці аўтараў, выразных прадстаўнікоў дваранскай гістарыяграфіі, пры ўсёй каштоўнасці выкладзенага імі фактаграфічнага матэрыялу вымагае сёння адпаведнага тлумачальнага рэдактарскага каментара, які ў гэтых артыкулах, на жаль, адсутнічае. Больш

(Заканчэнне на 8-й стар.).

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ВУЧОНЫ-СЛАВІСТ

На літаратурнай карце Слонімшчыны амаль не значылася раней імя Канстанціна Пушкарэвіча — гісторыка літаратуры, перакладчыка, славіста-педагога, доктара філалагічных навук, прафесара.

У снежаньскім нумары часопіса "Полымя" за 1990 год быў надрукаваны невялікі, але каштоўны ўспамін аднаго з вучняў К. Пушкарэвіча, беларускага пісьменніка Паўла Пруднікава. Вось што ён успамінае: "Было гэта ў верасні 1933 года. Я быў тады студэнтам першага курса факультэта мовы і літаратуры Ленінградскага пединстытута імя А. Бубнава. Канстанцін Аляксандравіч Пушкарэвіч выкладаў у нас літаратуру народаў СССР, стараславянскую і балгарскую мовы. Але больш за ўсё запомніліся мне яго лекцыі па літаратуры народаў СССР, у якіх найбольшая ўвага ўдзялялася беларускай і ўкраінскай літаратурам, асабліва беларускай, таму што ён сам быў беларусам, родам з Гродзеншчыны, як і яго настаўнік — акадэмік Карскі. Свой курс лекцый Канстанцін Аляксеевіч заўсёды пачынаў з беларускай літаратуры, з творчасці Янкі Купалы, якога ён бязмежна любіў. Ён неяк прызнаўся мне, што і асабіста добра ведаў беларускага песняра, калі той яшчэ жыў і вучыўся ў Пецярбургу і выдаваў сваю першую кніжку "Жалейка".

Нарадзіўся Канстанцін Пушкарэвіч у кастрычніку 1890 года ў Слоніме ў сям'і, якая любіла і добра ведала беларускую народную творчасць. У 1902 годзе паступіў у Гродзенскую гімназію і скончыў яе поўны курс са срэбным медалём. У час вучобы прымаў актыўны ўдзел у працы Гродзенскага гуртка беларускай моладзі.

У 1912 годзе Канстанцін Пушкарэвіч стаў студэнтам славянскага аддзялення гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, дзе разам са сваімі землякамі заснаваў Беларускі навукова-літаратурны гурток. Пасля заканчэння універсітэта яго, як здольнага філолага, пакінулі на кафедры для падрыхтоўкі да прафесарскага звання.

У 1919—1922 гадах выкладаў славянскую філалогію ў Томскім універсітэце. Некалькі гадоў назад я напісаў ліст-запыт у Дзяржаўны архіў Томскай вобласці. На маю просьбу прыйшоў такі адказ: "Сообщаем Вам, что по именным картотекам облгосархива Пушкаревич Константин Алексеевич не проходит. Однако на хранении у нас имеются фонды: "Томский университет" (1877—1921 гг.) и Томский государственный университет им. В. В. Куйбышева (1920—1947 гг.), в которых Вы можете отыскать интересующие Вас сведения о Пушкаревиче К. А. Приглашаем Вас приехать заниматься в читальном зале архива..."

Паехаць у далёкі расійскі горад Томск можна без праблем. Але ці знойдуцца фундатары гэтай паездкі, каб з далёкіх мясцін вярнуць на Радзіму звесткі пра знакамітага вучонага са Слоніма?..

Пасля Томска нашага земляка запрасілі ў Ленінградскі навукова-даследчы інстытут параўнальнага вывучэння моў і літаратур Захаду і Усходу на пасаду навуковага супрацоўніка. А праз пэўны час ён ужо працаваў у Ленінградскім універсітэце, выкладаў літаратуру народаў СССР. Апрача ўсяго гэтага Канстанцін Пушкарэвіч прымаў удзел у рабоце Славянскай камісіі Акадэміі навук СССР, быў супрацоўнікам Інстытута славяназнаўства Акадэміі навук...

У 1938 годзе нашаму земляку па сукупнасці прац была прысуджана ступень кандыдата філалагічных навук без абароны дысертацыі. А праз два гады ён абараніў доктарскую дысертацыю на тэму "Чэхі ў Расіі". Яго прызначылі загадчыкам кафедры славянскай філалогіі Ленінградскага універсітэта.

Канстанцін Пушкарэвіч — аўтар шматлікіх навуковых прац у галіне славянскай філалогіі, дзе вялікае месца займала беларусазнаўства. А ў лекцыях сваім студэнтам шмат расказваў пра творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Змітрака Бядулі, Міхася Зарэцкага і іншых класікаў беларускай літаратуры. Дарэчы, ён асабіста быў знаёмы з Янкам Купалам. Сустракаўся з ім у лютым — сакавіку 1929 года ў Ленінградзе, калі наш пясняр наведаў горад у складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў. Захаваўся нават фотаздымак, дзе К. Пушкарэвіч сфатаграфаваны з Я. Купалам, Я. Коласам, Ц. Гартным, М. Зарэцкім і іншымі пісьменнікамі ў Беларускім доме асветы ў Ленінградзе ў 1929 годзе. А яшчэ раней, у 1925 годзе, разам з беларускім выдаўцом, фалькларыстам, мовазнаўцам і літаратуразнаўцам Браніславам Эпімах-Шыпілам і іншымі асобамі Канстанцін Пушкарэвіч з Ленінграда накіраваў прывітанне Янку Купалу ў сувязі з 20-гадовым юбілеем яго творчасці.

Канстанцін Пушкарэвіч вельмі актыўна займаўся перакладчыцкай дзейнасцю. У 1928 годзе ў Ленінградзе выйшлі з друку асобнымі кнігамі апавяданні Цішкі Гартнага "Трэскі на хвалях" і аповесць "Салавей" Змітрака Бядулі ў яго перакладзе на рускую мову.

Беларускі вучоны-славіст займаўся гісторыяй чэшскага народа, балгарскай, сербскай і харвацкай літаратурамі, перакладаў творы сербскіх аўтараў на рускую мову.

Пасля смерці Б. Эпімах-Шыпілы Канстанцін Пушкарэвіч захаваў яго асабісты архіў. Вось што піша пра гэта беларускі даследчык Генадзь Кісялёў у альманаху бібліяфілаў Беларусі "Сівідзь" (1989 г.): "Архіў Л. Бэндэ (Лукаш Бэндэ — крытык-вульгарызатар. — **С. Ч.**) сведчыць, што яго гаспадар ведаў цану гістарычным каштоўнасцям. У цяжкія дні блакады Ленінграда ён прыняў захады, каб не загінулі беларускія гісторыка-літаратурныя скарбы, якія сабраў у свой час Эпімах-Шыпіла і захоўваў пасля другі ленінградскі вучоны-беларус Канстанцін Аляксандравіч Пушкарэвіч. Нельга без сапраўднага хвалявання чытаць надпісы на "Хрэстаматыі" Эпімах-Шыпілы: "Получ. от Брон. Игн. Эп.-Шипиллы 26. У-34, 2-го июня после второго удара Б. Игн. потерял сознание и скончался 6.VI-34 в 8 часов утра в больнице им. С. Перовской.

Получено от Конст. Алексеевича Пушкаревича 13.01—1936 г., завещено в собственность 1.1—42 г. Умер К. А. в феврале 1942 г. в гостинице "Астория".

Сапраўды, наш таленавіты зямляк Канстанцін Пушкарэвіч памёр ад голаду ў блакадным Ленінградзе. Дазвольце зноў вярнуцца да ўспамінаў пісьменніка Паўла Пруднікава: "Праз шмат гадоў, калі я ўжо меў магчымасць прыехаць у Ленінград, першай задачай маёй было даведацца, дзе ж мой былы настаўнік. Я адразу ж паехаў на яго ранейшую кватэру, але дома таго ўжо не было: яго знішчыла варожая бомба ў гады блакады. Тады я накіраваўся ў былы наш інстытут, які таксама знаходзіўся ў Петраградскім раёне, на вуліцы Мала-Пасадскай, 26. Там і яго, Канстанціна Аляксеевіча, і мяне добра ведалі — памяталі. І ў канцылярыі інстытута, і ў дэканаце паведамілі, што мой добры друг і настаўнік Канстанцін Аляксеевіч загінуў у час блакады ад голаду. Разам з ім, як я пасля даведаўся, загінулі яго жонка і дачка. Вестка гэтая кранула мяне да глыбіні душы. Я міжвольна заплакаў. Толькі слёзы не памаглі майму гору".

На сённяшні дзень у Санкт-Пецярбургскім аддзяленні архіва Расійскай акадэміі навук знаходзіцца шмат цікавых і арыгінальных дакументаў. Гэта анкета ад 7 лістапада 1922 года, запоўненая К. Пушкарэвічам, асабістая справа аб зацвярджэнні К. Пушкарэвіча ў званні дацэнта (1935—1939 гг.), справа аб абароне К. Пушкарэвічам доктарскай дысертацыі "Чэхі ў Расіі" (1940 г.) і іншыя.

Усе гэтыя дакументы чакаюць цярплівага даследчыка, каб малавядомае імя слонімца Канстанціна Пушкарэвіча стала ў Беларусі з цягам часу больш вядомым.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

У. БОРЗАБАГАТЫ — АДНАДУМЦА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

# АД НЯНАВІСЦІ ДА СПАГАДЫ

Выкананне прысуду з-за хадайніцтваў высокапастаўленага заступніка адцягвалася. Нарэшце 26 чэрвеня з Міністэрства ўнутраных спраў паступіла паведамленне віленскаму генерал-губернатару пра тое, што У. Борзабагатаму "высочайше даровано помилование, но с тем, чтобы он выслан был административным порядком на жительство под надзор полиции в одну из губерний империи по назначению г. Министра".

Месцам ссылкі была вызначана Кастрамская губерня, тэрмін абмежаваны дзесяццю гадамі. У канцы чэрвеня 1875 года памілаваны паўстанец адправіўся ў Кастраму ў суправаджэнні двух жандараў. Па распараджэнню губернатара месцам знаходжання ссыльнага вызначана было невялікае сяло Архангельск. Неўзабаве яму ўдалося дабіцца дазволу займацца медыцынскай практыкай. Вакантная пасада земскага ўрача знайшлася ў Варнавіне, цэнтры аднайменнага павета. Сюды і дазволілі мясцовыя ўлады пераехаць ссыльнаму пасяленцу.

З захапленнем заняўся У. Борзабагаты медыцынскай практыкай. Абавязкі земскага ўрача былі клопатныя: даводзілася спалучаць працу ў бальніцы з частымі раз'ездамі па ўчастку. Да таго ж з-за старэчага ўзросту і частых хвароб павятовага ўрача даводзілася выконваць і яго абавязкі. Калі пасада павятовага ўрача вызвалілася, У. Борзабагаты звярнуўся ў губернскае праўленне з просьбай прызначыць яго на гэта месца. Адказ з Кастрамы быў адмоўны: ён не заслужыў права на такую адказную пасаду.

Пастаянная праца, адносная свабода не радавалі ссыльнага ўрача. Тут ён яшчэ раз пераканаўся, што толькі медыцынскай і культурнай дзейнасцю не вычарпаць бяздоннага мора галечы і хвароб. Засмучала і адсутнасць жонкі, дзяцей. Зноў — тайная перапіска, абмеркаванне плана ўз'яднання. Нарэшце ў сакавіку 1876 года жонка з сынам пакінулі Кракаў і прыехалі на граніцу. Пратэкцыя ўплывовага саноўніка дапамагла і на гэты раз: ёй дазволілі паехаць да мужа ў Варнавіна. Але перад гэтым давялося прыняць рускае падданства. Па дарозе да мужа яна наведала яго маці, якая жыла ў маёнтку Вясёлы Двор Слонімскага павета.

На працягу 10 гадоў У. Борзабагаты сумленна працаваў земскім урачом. Мясцовыя жыхары палюбілі гэтага суровага на выгляд, але чулага і спагадлівага доктара. На дапамогу хворым ён спяшаўся ў любую гадзіну сутак, у любое надвор'е. За паспяховую ліквідацыю эпідэміі тыфу ўдзячныя пацыенты падаравалі яму залаты гадзіннік з дарчым надпісам.

Тэрмін ссылкі закончыўся ў 1884 годзе. Ніводнага лішняга дня не затрымаўся У. Борзабагаты ў Варнавіне. Кінуўшы ўсё, ён адразу ж паехаў у родныя мясціны. Наведаў Уладзіслаў Канстанцінавіч і Навагрудак. Мясцовыя ўлады сустрэлі яго насцярожана і не дазволілі тут пасяліцца. У. Борзабагаты пачаў шукаць новага прытулку.

У Мінскай губерні была свабодная пасада сельскага ўрача ў мястэчку Любешава Пінскага павета (цяпер у Валынскай вобласці на Украіне). Тут і пасяліўся Уладзіслаў Канстанцінавіч з сям'ёй. Цяжкія гады эміграцыі, ссылкі падарвалі здароўе паўстанца. Аднак, стары і хворы, ён заставаўся перакананым у неабходнасці справядлівага сацыяльнагаператварэння грамадства. Цёплы прыём знаходзілі ў яго не толькі хворыя. Асцярожна і даверліва пачыналі наведвацца да яго былыя паплечнікі. Разам са спрэчкамі аб прычынах паражэння паўстання абмяркоўваліся магчымасці аднаўлення барацьбы за вызваленне з-пад прыгнёту царскага самаўладства. Але гэтым планам не суджана было збыцца. У 80-я гады XIX стагоддзя ў Беларусі ідзі нацыянальна-вызваленчага руху страцілі сваё значэнне. Галоўнымі дзейснымі рэвалюцыйнымі сіламі сталі народнікі, мала прапетарыят. Хоць дух урача-патрыёта заставаўся нязломным, апошнія сілы пакідалі яго. Памёр У. Борзабагаты ў 1889 годзе. Дачка Уладзіслава Канстанцінавіча Вераніка памерла ў 1953 годзе.

Многія гады адзіным памятным знакам У. Борзабагатаму была ўмураваная ў сцяну касцёла Св. Пятра і Паўла на вуліцы Навагрудскай у Варшаве сціплая дошка, на якой названы толькі імя і прозвішча героя і нічога не сказана пра яго заслугі. У час другой сусветнай вайны касцёл узарвалі фашысты. Ацалелі толькі падмурак, дзве скульптуры і эпітафія доктару В. Матлакоўскаму. У апошнія гады касцёл адбудоўвць давялося практычна нанава. Ніхто пры гэтым не паклапаціўся пра аднаўленне памятных дошак.

Больш увагі надаздзена ахове ад забыцця імя У. Борзабагатага ў Беларусі. У Навагрудку вуліца Бальнічная перайменавана ў вуліцу імя У. Борзабагатага.

У вёсцы Рутка ў гонар славутага земляка быў устаноўлены памятны знак — прывезены з ваколіцы каменьвалун, да якога прымацавана мемарыяльная дошка.

Жыхары вёскі і ее наведвальнікі ганарацца гэтым мужным чалавекам і ўшаноўваюць яго светлую памяць.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 7—10.**



**Храму Трох Свяціцеляў у самым цэнтры Магілёва больш за 80 гадоў, але ў 1954 годзе ён быў разбураны. Толькі некалькі гадоў назад пачался яго актыўнае аднаўленне народам, прычым работы ішлі так хутка, што Аляксій II "за тэмпы ўзнаўлення і за захаванне першаснага выгляду" адзначыў іх Ганаровай граматай.**

**НА ЗДЫМКУ:** храм Трох Свяціцеляў у Магілёве.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

На наступны дзень пасля канцэрта, 9 лютага, у той самай газеце выступіў удзельнік хору Міхась Чарот. Яго пяру належаў артыкул "Беларускі хор", у якім ён распавядаў пра гісторыю ўзнікнення хору, галоўныя этапы яго станаўлення і творчай дзейнасці. Акрамя гэтага быў надрукаваны верш "Гэй! Спявай жа мацней на прадвесні" з пазнакай-прысвячэннем "Ахвярую Беларускаму хору Тэраўскага". Прыводзім гэты верш цалкам:



**Гэй! Спявай жа мацней на прадвесні,**
**Мо, хутчэй да нас прыдзе вясна,**
**Спявай родную, пекную песню,**
**Будзі край наш ад цяжкага сна.**

**Няхай песня далёка нясецца,**
**Хай разбудзіць таго, хто шчэ спіць,**
**Ува ўсіх тагды сэрцо заб'ецца**
**Не захочуць далей гэтак жыць...**

**Аб мінулым нам песня гавора,**
**Што і мы калісь вольна жылі...**
**Дык спявай жа пра радасць і горо,**
**Роднай песняй хоць нас весялі!**

**Захавалась яна пад прымусам,**
**Як жылі у няволі ўпярод...**
**Калі песня жыве беларуса,**
**Будзе жыць беларускі народ!**

Канцэрт навеяў лірычныя разважанні яшчэ аднаму аўтару — З. Бядулі, які апублікаваў свае нататкі ўсё пад той жа традыцыйнай назвай "Беларускі хор". Ён адводзіць самае пачэснае месца хору, народнай песні ў нацыянальным адраджэнні. "Калі змучаны працаю і цяжкім сучасным жыццём чалавек, — піша ён, — хоча на мінуту супакоіць сваё сэрца, забыцца аб сучаснасці, а перанесціся марамі да хатняга народнага жыцця, ён павінен паслухаць сапраўдную народную песню. Як бы матка сваімі ласкамі, напаўняе яно сэрцо спакойствам, яснасцю і дабратою... Тут, у Менску, мы маем хор, які дае магчымасць асвяжыць душу. Гэта адно месца з усіх культурных установаў, гдзе сапраўды пачуваеш сябе дома, адчуваеш беларускае жыццё. У нацыянальным адраджэнні беларускага народа родная песня займае адно з першых месц. Трэба паказаць народнае жыццё тым, хто яго не ведае, і тым, хто хоць ведае, але не разумее. Стараннем нашага шчырага працаўніка, п. Тэраўскага, і яго супрацоўнікамі — харыстамі песня наша пастаўлена на самае пачэснае месца. Наш хор — гонар наш перад людзьмі і асалода для змучанай душы..." З такім замілаваннем напісаны гэты артыкул, што цяжка стрымацца ад доўгай цытаты.

З. Бядуля таксама высока ацаніў і ўласную творчасць кампазітара: "Музыка да "Звону" (словы М. Кудзелькі) напісана вельмі ўдала... Да рэальнасці чуваць музыка званоў ва ўсім урачыста-святочным веліччы, якія будзяць да лепшага жыцця... Зыкі льюцца цэлымі хвалямі, і здаецца табе пры гэтым, што цэлыя грамады людзей ідуць пад чароўныя зыкі на прамяністы ўсход на "вялікі сход за бацькаўшчыну", ідуць грамады людзей цэлымі працэсіямі, і іх ніхто не можа спыніць з свайго шляху — ніякая варожая сіла..."

Адзначыў аўтар і выкананне "Ваяцкага маршу" Макара Краўцова.

Адным з першых нацыянальных скарбаў назваў З. Бядуля хор Тэраўскага.

Акрамя працы ў Беларускім хоры і прыходскім хоры пры Старажоўскай царкве, хормайстар аддае свае сілы педагогіцы. Увосень 1919 года рэктар Беларускага педагагічнага інстытута Усевалад Ігнатоўскі запрасіў Тэраўскага стаць выкладчыкам гэтай установы. Адначасова ён працуе настаўнікам спеваў у трох беларускіх вучэльнях Мінска. З самага ўтварэння Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта — каардынацыйнага цэнтра беларускіх партый і культурна-асветных арганізацый падчас польскай акупацыі — заставаўся яго сябрам; быў таксама заснавальнікам і адным з кіраўнікоў Таварыства беларускага мастацтва. Можна толькі дзівіцца, колькі паспяваў гэты чалавек, якой энергіяй і працавітасцю валодаў. Ніводная ўрачыстая імпрэза ў 1919—1920 гадах не абыходзілася без дабрачынных канцэртаў хору.

24 чэрвеня 1920 года беларускае грамадства Мінска святкавала імяніны і 15-годдзе літаратурнай працы Янкі Купалы. Урачыстасць адбылася ў былым Юбілейным доме, у якім на той час размяшчаліся важнейшыя беларускія ўстановы. Зала была ўпрыгожана зялёным веццем і нацыянальнымі беларускімі штандарамі. У падзяку за чэсць і віншаванні Янка Купала сказаў пранікнёную прамову пра лёс беларускага народа, пра адраджэнне, пра неўміручасць і жыццяздольнасць беларускай ідэі. "На беларускай зямлі было і цяпер ёсць шмат фальшывых пракокаў, шмат рэнегацкіх душ, што за лыжку поснай поліўкі з чужой міскі запрадаюць сябе і свой народ у рабства чужынцам... Будзем верыць, што і ў нас, беларусаў, прыдуць новыя людзі, новыя пракокі і будуць па-божаму над фальшывымі пракокамі і прадажнымі душамі суды судзіць, з пакалення ў пакаленне пракляццем успамінаць", — гэтыя словы даюць магчымасць адчуць той боль, якім балела сэрца вялікага песняра. Газета паведамляла, што ў часе прамоў на хорах залі спяваў хор Тэраўскага.

Але галоўным клопатам хору па-ранейшаму быў тэатр. Найбольш памятнай з тэатральных работ таго часу стала сумесная праца з Ф. Аляхновічам пры пастаноўцы новай версіі музычнай камедыі "Птушка шчасця". Музыку арыі Лесуна напісаў для яе Тэраўскі. Дэбют версіі аперэты адбыўся 14 чэрвеня 1920 года ў Мінскім гарадскім тэатры і быў ухвалены ў друку.

У 1920—1926 гадах у перыяд так званай новай эканамічнай палітыкі ў культурным жыцці Беларусі наступіла пэўная лібералізацыя. У галіне музыкі пачалі дзейнічаць розныя ўрадавыя камісіі і секцыі Інстытута беларускай культуры (потым БелАН) для збірання і запісу беларускага фальклору, для апрацоўкі і публікацыі беларускай песеннасці і арыгінальных твораў, для арганізацыі мастацкіх навучальных установаў, тэатраў, хораў, аркестраў, розных ансамбляў. Беларусь на той час мела даволі трывалую групу музычных дзеячаў — даследчыкаў, кампазітараў, педагогаў, кіраўнікоў: Анцава, М. Аладава, У. Тэраўскага, Прохарава, А. Грыневіча, А. Ягорава, М. Равенскага, М. Чуркіна, Мацісона, Шнітмана і іншых.



Пачаўшы з запісу народных беларускіх песняў, Тэраўскі пераходзіць да іх гарманізацыі і апрацоўкі, складае зборнікі песень. У 1921 годзе ў Мінску выйшаў "Беларускі спеўнік" на 3 галасы, ён змяшчаў 25 песняў, у 1922 годзе ў Берліне — "Беларускі лірнік", які ўключаў 99 нумароў. Гэта былі песні, што выконваў яго хор. Трохі пазней, у 1926 годзе, выйшаў "Вайсковы зборнік" з 30 песняў. Апрацоўка



і гарманізацыі Тэраўскага, як адзначалі спецыялісты, вылучаліся шчырасцю, сардэчнасцю, пачуццём народнага каларыту і добрай ансамблевай гучнасцю.

У прадмове да "Беларускага лірніка" Тэраўскі падкрэсліваў неабходнасць выдання зборніка, каб хоры не карысталіся чужымі мелодыямі, якія не адпавядаюць духоўнаму складу беларуса, а бралі беларускія песні, якія "па сваёй пекнаце й багаццю ня горш за іншыя... у іх як у люстры адбіваецца ўвесь духоўны настрой гаротнага селяніна". Услухаўшыся ў народныя напевы, можна ўбачыць хараство родных мелодый, знайсці ў іх духоўны супакой.

Акрамя гэтага, Тэраўскі стварыў музычнае афармленне многіх спектакляў БДТ ("Каваль-ваявода", "Машэка", "Кастусь Каліноўскі" і інш.), напісаў музыку да дзіцячай п'есы М. Чарота "Алеська і Данілка".

Ён быў таксама аўтарам рамансаў і песень на словы Янкі Купалы, Змітрака Бядулі, Міхася Чарота, Цішкі Гартнага. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што на пачатку свайго творчага шляху Тэраўскі працаваў выкладчыкам спеваў у школах Мінска, Мінскім настаўніцкім інстытуце, на курсах беларусазнаўства.

З першай паловы 20-х гадоў ён узначальваў хоры Белпедтэхнікума, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а таксама хор паштова-тэлеграфных служачых.

Але найбольшую славу Тэраўскаму прынесла музыка драмы-оперы "На Купалле" на словы Міхася Чарота. У гэтым творы, па сведчаннях музыказнаўцаў, кампазітар быццам падсумоўвае ўсю сваю ранейшую дзейнасць і шчыльна падыходзіць да нацыянальнай опернай формы. Найбольш удаліся Тэраўскаму харавыя сцэны.

Музычная драма "На Купалле" сталася кульмінацыяй яго творчасці. Яго простая, шчырая, узнёслая, самабытная, выключна мілагучная музыка настолькі была блізкай і роднай беларускай душы, што ўвайшла ў быт як народная песня. Пастаноўка вылілася ў надзвычайнае здарэнне ў беларускім грамадстве, у дэманстраванне нацыянальнага мастацкага беларускага руху. 432 разы "На Купалле" ставілася ў тэатры, і заўсёды не было вольнага месца.

Прэм'ера музычнай драмы М. Чарота "На Купалле" адбылася ў Беларускім дзяржаўным тэатры 20 лістапада 1921 года. Поспех пастаноўкі быў незвычайны. Але гэтага не мог бачыць аўтар музыкі. Яго не было ні перад любімым хорам, ні ў ложы тэатра. Знаходзіўся ён на турэмных нарах. Праўда, дакладна невядома, дзе: у Мінску ці ў Смаленску. Наўрад ці прачытаў ён і рэцэнзію Я. Журбы, апублікаваную 9 снежня, у якой гаварылася, што опера-драма "На Купалле" "адчыняе новую эпоху ў гісторыі развіцця беларускага тэатра", а "музыка да п'есы напісана У. Тэраўскім надта здольна і, безумоўна, кладзе цвёрды грунт сапраўднай оперы ў навейшым духу..."

Трохі раней, 11 жніўня 1921 года, адбылося праслухоўванне камісіяй гэтага твора. У карэспандэнцыі З. Бядулі паведамлялася, што "хор Тэраўскага ў поўным складзе выпаўніў перад камісіяй гэты новы музычны твор. Камісія была задаволена мастацкай кампазіцыяй Тэраўскага, якая вельмі жыва і каляроўва перадае ўвесь наш міфічны купальскі культ на фоне старадаўніх абрадаў". Камісія адзначыла багацце мелодый, якія малююць багатую душу народа.

"Камісія прапанавала аўтарам драмы і музыкі даць гэту прэм'еру ад "Хаты беларускага мастацтва", — так заканчваўся допіс. Аўтар музыкі "На Купалле" быў яшчэ на волі.

1921 год быў драматычным для беларускіх працаўнікоў, беларускай інтэлігенцыі ўвогуле і для Тэраўскага ў тым ліку. У лютым ЧК Беларусі арыштавала каля 2 000 чалавек. Многія з іх былі сябрамі Беларускай партыі эсэраў, якую бальшавікі імкнуліся зліквідаваць. Асноўны цяжар культурна-асветнай працы ляжаў на іх плячах. Але бальшавікі баяліся абуджэння нацыянальнай свядомасці народа, над чым шчыравалі беларускія эсэры. Баяліся і ўзрастання іх аўтарытэту, найперш сярод сялянства. Не пазбегнуў арышту і У. Тэраўскі. Не трэба забывацца, што быў ён родам са Слуцкага раёна, дзе ў 1920 годзе адбылося антыбальшавіцкае паўстанне. У хоры раней спяваў удзельнік антысавецкага сялянскага фарміравання "Зялёны дуб" В. Адамовіч (Дзяргач). Нават гэтага знаёмства было дастаткова для абвінавачання Тэраўскага ў шпіёнскай дзейнасці. Ён быў арыштаваны 10 верасня 1921 года. Асобая камісія ЧК Беларусі "за укрывательство шпионки Зайцевой, незаконное хранение оружия и дачу ложных показаний" прысудзіла Уладзіміра Тэраўскага (разам з Усеваладам Фальскім, стваральнікам беларускага тэатра) да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу), які быў па шматлікіх заявах-просьбах беларускай інтэлігенцыі заменены 5-ю гадамі катаржнай турмы. Пакаранне Уладзімір Васільевіч адбываў у Смаленску. Там ён сустрэў і свой 50-гадовы юбілей. Так адплаціла бальшавіцкая ўлада Тэраўскаму за яго самаахвярную працу на карысць Бацькаўшчыны. Ці, можа, яна найбольш і баялася гэтай працы, што спрыяла абуджэнню нацыянальных пачуццяў беларусаў? А беларускія працаўнікі ўяўлялі для яе непажаданы элемент?

**Аляксандра ГЕСЬ,**
**Уладзімір ЛЯХОЎСКІ.**




**НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі хору Тэраўскага Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ; Люба ТАРАСІК; Канстанцін ПУРОЎСКІ; Беларускі хор У. Тэраўскага сярод вучняў першай беларускай школкі ў Мінску. Восень 1918 года; "Беларускі сьпеўнік".**

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 8-10.**

# «І БУДЗЕМ ДУМЫ ДУМАЦЬ АБ САБЕ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

крываць высокую лучнасць у першай стрэчы "на крыжавых пуцінах", у хаце, дзе "мілаванне — над царамі цар", на першых праталінах і за кроснамі, і нават пры выгане ў поле жывёлы. Трэба мець відушчую душу, каб агляд поля, радаўніца, ворка і бяленне палатна, сяўба і палонне агароду, веснаванне-цвіценне яблыняў і няўтомная праца на сенажаці бачыліся святам, красою свету. Трэба мець яснае шчасце знайсці і любіць чалавека, каб вымавіць мужна-ганарова:

**Я песняй мілую сваю праслаўлю**
**Паміж народамі сваіх, чужых зямель,**
**Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю, —**
**Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель.**

У паэзіі дарэмна шукаць паралеляў, аналогіяў. Паэзія не гісторыя хваробы ці кахання. Паэзія — кардыяграма сусветнага сэрца. І калі творцу чуцён спрадвечны жыццёвы сэрцабой, ён ухваляе харяство, тым самым памнажаючы яго...

І ўсё ж паэт, як і ўсялякі чалавек, падпарадкаваны гэтаму неадольнаму цягненню — любові. Таму й шукае свой шыфр да загадкавай спрадвечнай формулы — Яна і Я, спрабуючы намацаць гармонію-еднасць. І гэтак выходзіць, што потым, праз гады-стагоддзі, мы будзем распытваць паэтавы лісты, думкі, падзеі, каб нанава складаць ягоны лёс. І ўсё, напэўна, будзе вельмі аддалена нагадваць праўду. Бо й свае асабістыя зрухі не заўжды можна вытлумачыць і адпаведна занатаваць. А творчае парыванне наогул ні ў якія каноны не ўкладзеш — каб стройна, складна, ідэальна...

Таму я не насмелюся зазіраць у біяграфію Купалавай сям'і, каб распазнаць — на каханні яна ўзрастала ці на нейкім іншым пачуцці, што зводзіць, здавалася б, розных людзей у пару. Хай гэтыя азначэнні не турбуюць нас, бо ключ ад скарбонкі роду належаў толькі ім — Яму і Ёй. І ніхто цяпер не адчыніць дзверы ў той мікрасвет, што твораць толькі двое ў злітнасці. А вось чарпануць прыгаршчай тае цеплыні, што сабралі ў свой дом двое, — магчыма і цяпер. Бо нічога ў свеце не знікае. Проста нахінуцца і чарпануць, бо ў кожным чалавечым саюзе-злучэнні тоіцца магутная энергія дабра.

Спатыкаючыся сёння з балючай з'явай разнамоўя ў нашых беларускіх сем'ях, я згадваю з уцехаю Купалаву сям'ю. Бо зусім недарэчна выглядае, калі побач з чалавекам, які руліцца пра зберажэнне нацыі і мовы, жыве і мысліць ягоная палова на іншай мове, перадаючы гэтую зручнасць- няўважнасць і дзецям. Купала паўстае, як паратунак, як напамін, што бывае інакш — сугучна. Дык вось пра гэты подзвіг чуйнасці ў сям'і мне думаецца пасля 105-й гадавіны з дня нараджэння Купалавай жонкі Уладзіславы і пасля дня яе смерці. Чалавек пражыў сваё жыццё дзеля жыцця іншага — гэтак, напэўна, можна акрэсліць ейную долю. Не са шкадаваннем акрэсліць, а з павагай і падзякай. Таму што няма нічога больш важнага, чым разумець і любіць чалавека — не ўсё абстрактнае чалавецтва, не вялікую Радзіму — а чалавека на ягонай радзіме, з ягонай Бацькаўшчынай у балесным сэрцы. Таму што няма нічога цяплейшага ў свеце, чым збудаваны-ўзведзены свой дом — дом, дзе сходзяцца ў адну дзве сцяжыны дзеля суполля. Дзеля жыцця разам — з адказнасцю за свой край, за свой час, свой голас у бязмежжы — перад сабой і сваім спадарожнікам.

Штовечар у Купалавым доме запальваецца святло. Як некалі, як заўжды, пакуль на гэтай сядзібе ветла ўсміхалася людзям і бяскрайняму свету драўляная хаціна, спаленая вайной. У Купалавым доме дыхае, пульсуе жыццё. Вяршыцца і надалей лёс паэта, нібыта й не з'язджаў ён некалі ў Маскву, каб не вярнуцца. Нібыта не спынялася ягоная думная хада па старажытным гасцінцы да Бацькаўшчыны, якая ўзрушана-ўтрапёна чакае й цяпер гойнага слова паэта-прарока, паэта-мысляра.

Цёпла ў Купалавым доме. Цёпла таму, напэўна, што зямля гэтая, маленькі акрайчык Айчыны, не пазбылася ў мітуслівым мігценні гадоў дайнага і чыстага святла, якім адорвала Купалава сям'я гасцей — сяброў, знаёмых, аднадумцаў і зусім, здаралася, незнаёмых прышэльцаў. Цёпла яшчэ й таму, што тут і цяпер жывы не толькі высокі Дух паэта, але трапяткая энергія жанчыны, якая ўмела запрашаць-прывячаць, частаваць і раздаваць нечаканыя падарункі. Жанчыны, якая з гонарам здатная была правесці слыннага паэта праз натоўп да залы, дзе яго чакалі, прапускаючы мужа наперад і папераджальна просячы: "Дайце прайсці Яначку". Бо толькі ёй адной былі вядомыя Купалава сціпласць і адзінотнасць, толькі яна адна была Богам дапушчаная дапамагчы, прадчуць, здагадацца — і засланіць, заступіцца, не губляючы жаноцкасці і неўтаймоўнасці характару. І толькі на яе плечы, на яе сэрца ўскладаўся цяжар Янкавай грамадзянскай зацятасці: даводзілася сцішваць-супакойваць паэта ў гневе ды абурэнні, даводзілася ўгаворваць на кантакты з уладнымі людзьмі — каб не аддаць катавальні. І нават некаторыя вершы Беларусі ардэнаноснай — спамінаюць — Купала-бунтар пісаў, паслухаўшы дыпламатычную жонку.

У Купалы быў дом — станішча, дзе заўсёды яго чакала, пра яго трывожылася і думала нястомная гаспадыня — жанчына, якая разумела і ратавала. Як уратавала, душой пачуўшы няладнае, у тую жорсткую ноч, калі паэт адважыўся сысці з жыцця, не прадаўшы сумлення. У Купалы быў кут, куды збягаліся здалёк і зблізку ўсе паэтавы сцяжыны, скуль праменілі да радзімага люду Купалавы радкі, сягненні, маленні. У Купалы быў шчыры прытулак, дзе можна застацца сам-насам з адчаем, болем і сумнівам, адчуваючы блізкасць-пародненасць з жонкай, якая і сябра, і аднадумца. Дзе можна роспачна плакаць сэрцам і распраствацца крылы на новае ўзвышэнне з грунту сям'і, з'яднання. Купалу сустракаў парог, асвечаны памяццю продкаў, гісторыі, парог, за якім жылі клопат і павага.

Нам не дадзена ўведаць той таемны код, што ахоўвае нашыя спатканні-злады ці кідае ў віры ростаняў. Дзве дарогі, дзве ракі, расплыненыя ў бясконцасці свету, шукаюць адна другую, пакуль не спыніцца жыццё. Каханнем знітаваная доля сям'і ці простаю чалавечаю ўдзякаю, здольнасцю зберагчы і не параніць чуйнасць душаў — найважная дзея быцця чыніцца ў хатах, не раскіданых радавых гнёздах. Яснабачны Купала — мужны і годны мужчына, — пэўна, не толькі ўмеў чэрпаць жаночую светлыню — умеў падмацоўваць яе, сілкаваць. Засталіся ж яны разам "сярод раз'юшаных сатрапаў", вытрымалі ўсе выпрабаванні на ўзлётным шляху ад першае сустрэчы ў Вільні да жальнага развітання ў Маскве, калі на Уладзіславу абрынулася адзінота ўдавы. Калі агульны Дом — абярог беларускае думкі і беларускае песні, сагрэтых сэрцамі шляхетнага Купалы і энергічнай спадчынніцы французскага мастака Клода Манэ Станкевічанкі — згарэў, забраўшы ў нябыт незлічонасць Янкавых рукапісаў і занатоўкаў. Калі шлях беларускі быў ахутаны дымам. Калі не стала паплечніка, каб разам адбудоўваць годны духоўны пасад на старавечнай зямлі. Калі жанчына робіць выбар — знайсці-сабраць усё да драбнічкі Купалавае і пра Купалу, каб адбыўся музей, як адбываецца адкрыццё-азарэнне.

Пакутная дарога ўскрыліла Беларусі Купалу, пакутная і зорная. І жанчына, што падала руку на супольны лёс у касцёле святых Пятра і Паўла ў Маскве, стала анёлам на гэтай дарозе. Яна шанавала Янку, каб Купала паспеў і адолеў памагчы краю, замаліць і абудзіць сонную Айчыну. Разам, жанчына і мужчына, звёўшы адкрытыя далоні, Купала і Уладзіслава Луцэвіч зладавалі непарушны дом, дзе гарэў нягасны нетравы Зніч, раздзьмуханы вуснамі ўсіх пакаленняў крывіцкае зямлі, ажыўлены вераю на пачатку веку. І ў доме Купалавым трымціць агонь дагэтуль, святарна прасвятляючы гасцінец Адраджэння.

Счэпленыя пальцы ўзышлі лісцем на дрэве роду. Але не наканавана было гэтаму дрэву даць парасткі. А ўсё ж не дарэмна, не пустэльна зляцелі яны ў гэтую краіну, каб спаткацца: Купала глядзеў у будучыню Беларусі, асцерагаючы народ ад забыцця. Уладзіслава сцерагла спакой Купалы дзеля Бацькаўшчыны, брала на сябе цяжар прымірэнняў-пагадненняў Купалы з уладамі, каб не аддаць паэта Курапатам. А сышоў Янка, насцігла чужая бязлітасная рука — жонка жыла адной толькі турботай — захаваць усё Купалам здабытае-пражытае, каб ён тут, на Радзіме, застаўся. Каб дом Купалы святлеў вокнамі ў наступнасць, вабячы нашчадкаў і пасля, калі паляціць душа жанчыны ў вырай услед за тым, каму ці не штодзень спавядалася: "Каб ты ведаў-бачыў, Янечка, колькі ўсяго зроблена..."

Хто ведае — ці дайшлі б да нас якія звесткі пра Уладзіславу Станкевіч, калі б не сышліся іх дарогі — Купалы-мысляра і дзяўчыны, што прырасла да гэтае зямлі і любіла гэтыя задуменныя песні... Купала раскрыў у ёй вялікі талент стваральніцы, зберагальніцы. Купала даверыў ёй сваю не надта ўцешную долю, прыняўшы яе любоў і рупнасць Божым дарункам, блаславеннем.

**Антаніна ХАТЭНКА.**



**Найстарэйшым мастаком Ваўкавыска лічыцца Аляксандр Галушкін. У 1941 годзе ён скончыў Маскоўскае мастацкае вучылішча. Потым — вайна. 26 гадоў адслужыў у арміі афіцэрам, але ніколі не пераставаў маляваць. А пасля звальнення ў запас стаў працаваць настаўнікам чарчэння і малявання ў школе № 2 Ваўкавыска.**

**Мастак-натураліст, Аляксандр Іванавіч заўсёды маляваў тыя мясціны, дзе даводзілася бываць. Апошнія яго работы прысвечаны ў асноўным Ваўкавыску і яго наваколлю. Усяго ж іх у мастака каля паўтары тысячы. У свае 74 гады А. Галушкін — пастаянны ўдзельнік усіх выстаў і кірмашоў, што праходзяць у родным горадзе і абласным цэнтры.**

**НА ЗДЫМКУ: Аляксандр ГАЛУШКІН са сваімі работамі.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

*З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

## ДУША ПРАРАСТАЕ РАДКАМІ

Заўсёды новая кніга для паэта — выпрабаванне. І няважна, што за плячамі тваімі стаяць недарэмна пражытыя гады і маецца пэўны творчы набытак. Кожны раз трэба пачынаць наноў, спачатку.

Гэтае адчуванне не пакідала мяне, калі я чытаў зборнік вершаў і балад Алеся Пісарыка "Журба вяргіні". Тут, як і ў ранейшых кнігах, ён выказвае свае пачуцці надзвычай проста і натуральна. Яго душа прарастае радкамі так, як зямля вітае вясну першымі зялёнымі стрэлкамі травы. Але заўважаецца, што рамантычнае ўспрыманне ўсяго існага саступае месца роздуму, больш глыбокаму асэнсаванню чалавечага быцця. За апошнія гады паэту давялося многае зведаць, адчуць, перадумаць, перажыць. А таму лепшыя радкі кнігі дыхаюць пакутамі і радасцю, трагізмам, жыццясцвярджальнасцю, пазначаны настойлівым душэўным пошукам. Бачыш, што лірычны герой, аднадумца паэта, імкнецца стаць чалавекам, які, кажучы словамі Уолта Уітмена, ніколі не ўмяшчаецца "паміж ботамі і капелюшом".

Чытаеш гэтыя словы і ўяўляеш чалавека, які цвёрда стаіць на сваёй зямлі, пад сваім небам. А яшчэ бачыш, як пальцы, што вадзілі алоўкам па паперы, учэпіста трымаюць ручкі плуга, святочна падносяць да вуснаў акраец чорнага жытняга хлеба, дрыготка гладзяць шаўковыя валасы каханай жанчыны...

У паэзіі Алеся Пісарыка ёсць шмат чаго ад самога характара беларуса-селяніна з ягонай непаспешлівасцю, разважлівасцю, любоўю да ўсяго крэўнага, з ягоным глыбінным адчуваннем спаконвечнай трываласці роднай зямлі, вартасці і значнасці мудрых народных традыцый. Паэт і плугар — ён добра ведае, што варта зберагчы і перадаць нашчадкам, бо заўсёды чалавеку патрэбен не толькі хлеб, але і паэзія. Яны праходзяць праз жыццё, як будзень і свята.

Загортваеш апошнюю старонку кнігі і падзяляеш надзею паэта, што "Беларусь — навекі маладая, гордая адвагай даўніны" выйдзе з летаргічнага сну, акрыяе і пойдзе ў будучыню па шляху волі і праўды.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

***Ніжэй друкуем некалькі вершаў з новай кніжкі Алеся Пісарыка.***

**Алесь ПІСАРЫК**

* * *

**Застыла песня ў горле беларуса.**
**І вырваная з голасу журба**
**Гарыць, як непакорлівая ружа...**
**О Божа, ад бяды народ пазбаў!**

**"Сваё б дабро —**
**Сваім сярпом пажаці!" —**
**Спакон вякоў жадалі крывічы.**
**Жыве ва мне заклён сялянскай маці**
**Душу зямлі ад здзеку зберагчы.**

**Шануйце чысціню вачэй**
**адкрытых! —**
**Як на крыжы пакутніцкім, прашу,**
**І Бог надасць вам ангельскія крылы,**
**І Бог пачуе кожную душу.**

### МАЯ МАЛІТВА

*Раману Шаўко*

**Беларусь — навекі маладая,**
**Гордая адвагай даўніны...**
**Глянь, як чорны бусел залятае**
**І ў дзяцей загадкавыя сны.**

**Адвядзі бяду ад непавінных,**
**Заруйнуй пакінутае зло,**
**Адшукай найлепшай пуцявіны,**
**Узнімі на белае крыло...**

**Абудзі ў сынах былую веру,**
**Вочы іх спагадай асвяці,**
**Каб у кожным слове зналі меру**
**І прыйшлі да Бога пры жыцці.**

**Будзе неба вечна светла-сінім,**
**Будуць жыць сардэчнасцю сыны...**
**Ім вярні прысягу Еўфрасінні,**
**І Скарыны маладыя сны.**

* * *

**Крыж пры дарозе — чатыры шляхі,**
**Ключ да разгадкі Сусвету.**
**Помняць крыжы дабрыню і грахі,**
**Крылы абломваюць ветру.**

**Тояць крыжы пры дарозе ўспамін —**
**Продкаў святую адвагу.**
**Ім пакланіся, зямлі роднай сын,**
**Меч загастры за зняважу!**

**Крыж пры дарозе сівы, нібы дзед,**
**Мне пра Купалу не схлусіць.**
**Рэха спытае: "А хто там ідзе!"**
**Я адкажу: "Беларусы!"**

**Крыж пры дарозе дабром залачу,**
**Толькі б адрынуць трывогу,**
**Толькі б свабоднае сэрца адчуць**
**І незалежнай — дарогу!**

* * *

**Што дадзена Богам — не ўзнімеш**
**вышэй:**
**Свой гонар —**
**Чужога спрадвек даражэй!**

**Чужынец лагодзіць, а дыхае сажай,**
**Нічога напутнага нам не падкажа.**

**Душа, — яна сціснецца болем пасля:**
**Не ведалі б вочы таго круцяля!**

**Абкрасці жадалі наш край**
**неаднойчы,**
**Ды соль з галавешкай —**
**Нашэльцам у вочы!**

**Мне бацькавы словы вяртаюцца**
**ў сне:**
**Хто вецер пасее — той буру сажне.**

## З МІНУЛАГА

# «У ПАМЯЦЬ БУДАЎНІЦТВА ПАЛЕСКІХ ЧЫГУНАК»

У артыкуле "Гісторыя на далоні", апублікаваным у "Голасе Радзімы" ў кастрычніку 1994 года, я расказаў аб некаторых памятных медалях на беларускую тэму, адчаканеных у Расіі ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў. У гэтым матэрыяле я свядома апусціў звесткі, вельмі нязначныя, пра медаль, выпушчаны ў гонар пуску Палескіх чыгунак. Тады, у 1994 годзе, пра гэты медаль было вядома толькі, што такі медаль існуе. Але ніхто з калекцыянераў у рэспубліцы не меў яго ў сваёй калекцыі, не значыўся ён і ў музейных экспазіцыях. У 1972 і 1985 гадах у нашай рэспубліцы былі выдадзены кнігі пра беларускія медалі. Аўтар гэтых кніг вядомы беларускі калекцыянер-фалерыст дацэнт Політэхнічнай акадэміі А. Процкі апісаў звыш 300 медалёў і значкоў, якія расказвалі аб памятных падзеях, што адбыліся на беларускай зямлі за яе шматвяковую гісторыю. Аднак ні ў адной з кніг няма апісання, фатаграфіі, гісторыі стварэння медаля аб Палескіх чыгунках. Аўтар толькі ўпамінае, што такі медаль быў адчаканены. А. Процкі рабіў спробы знайсці якія-небудзь звесткі пра гэты медаль у гістарычнай літаратуры, у музеях, але спробы гэтыя былі беспаспяховымі. Павінен сказаць, што і мае шматгадовыя пошукі звестак пра гэты медаль таксама не прынеслі вынікаў. Але як заўсёды — дапамог выпадак. Праўда, выпадак трагічны. Памёр у Мінску стары калекцыянер. Ён рэдка сустракаўся са сваімі калегамі, таму яны практычна ніколі не бачылі яго калекцыі, не ведалі, якія матэрыялы ў ёй ёсць. Сваякі памерлага вырашылі прадаць калекцыю медалёў. Вось на распродажы я і ўбачыў гэты рэдкі медаль.

Медаль быў выпушчаны ў 80-я гады мінулага стагоддзя невялікім тыражом, практычна не захаваўся не толькі ў калекцыях радавых збіральнікаў, але і ў экспазіцыях музеяў. Здавалася, што ён так і не будзе знойдзены і што-небудзь пра яго будзе напісана. Але вось я трымаю на далоні важкі чаканны злітак з бронзы таўшчынёй 5 міліметраў і 93 міліметры ў дыяметры. На аверсе медаля — профіль цара Аляксандра III — ініцыятара будаўніцтва Палескіх чыгунак. Вакол царскага партрэта вянок з лаўровых і дубовых лістоў і надпіс старажытнай рускай вяззю (па акружнасці): "У памяць будаўніцтва Палескіх чыгунак. З 1883 па 1887 год". На рэверсе медаля (адваротным баку) амаль уся прастора занята картай-схемай чыгунак, што існавалі ў той момант на тэрыторыі Беларусі і прылеглых да яе рэгіёнаў. Вакол карты-схемы па акружнасці змешчаны прозвішчы кіраўнікоў будаўніцтва Палескай магістралі (па ўчастках): "Начальнікі работ: Ф. К. Хржаноўскі — Н. Т. Серабракоў — М. Н. Грыгароўскі — Б. А. Рыпас". Над картай і пад ёю змешчаны гербы губерняў, па землях якіх пралеглі сталёвыя рэйкі Палескай дарогі — Магілёўскай, Мінскай, Гродзенскай, Віленскай... На карце-схеме пункцірнымі лініямі паказаны раней пабудаваныя Маскоўска-Брэсцкая, Лібава-Роменская і Варшаўска-Пецярбургская чыгункі. Суцэльнай лініяй пamечана новая Палеская чыгунка. Гэта трасы Бранск — Гомель — Лунінец — Пінск — Брэст-Літоўск — Хэлм; Вільна — Баранавічы — Лунінец — Роўна; Баранавічы — Слонім — Беласток — Седльцэ. На карце пказаны таксама буйныя рэкі Беларусі — Нёман, Прыпяць, Сож, Днепр...

Памятны медаль аб пуску Палескай чыгункі доўгі час не з'яўляўся аб'ектам вывучэння гісторыкамі і музейнымі работнікамі. Гісторыя яго не высветлена да канца. Невядомы тыраж выпуску, месца чаканкі — Маскоўскі ці Пецярбургскі манетны двор. Невядомае прозвішча маста-




ка-медальера, хаця літары яго імя і прозвішча — "А. Ш." можна ўбачыць на медалі. Краязнаўцам і гісторыкам застаецца толькі прыкласці намаганні да расшыфроўкі гэтых загадкавых літар.

Вядома ж пакуль, што гэта першы памятны медаль, на якім упершыню адчаканены назвы беларускіх гарадоў — Брэста, Пінска, Гомеля, Лунінца, Слоніма, Баранавіч, паказаны гербы беларускіх губерняў, абрысы рэк Беларусі.

Гэты унікальны медаль на распродажы калекцыі хацелі набыць многія калекцыянеры, у тым ліку і замежныя. Але было зроблена ўсё, каб памятны медаль аб Палескай чыгунцы застаўся ў нашай краіне. Унікальны медаль набыў для сваёй экспазіцыі музей гісторыі Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## МАСТАЦТВА І РЭЛІГІЯ





**Так называецца выстава, што адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі пры ўдзеле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. У экспазіцыі звыш ста твораў, якія раней не экспанаваліся, а многія з іх, перш чым трапіць на выставу, прайшлі сур'ёзную рэстаўрацыю. Экспанаты даюць поўнае ўяўленне аб асаблівасцях мастацтва і рэлігійных вераваннях на тэрыторыі Беларусі ад трэцяга тысячагоддзя да новай эры і да пачатку XX стагоддзя.**

**На выставе можна ўбачыць прадметы язычніцкіх абрадаў, старадрукаваныя кнігі, іконы, падсвечнікі, нацельныя і алтарныя крыжы, харугвы... І ўсё гэта выканана з найвышэйшым майстэрствам і мастацкім густам. Тое, што стваралі майстры ўсіх часоў у імя веры — гэта ўзоры сапраўднага народнага мастацтва, дакрануцца да якога і дазваляе выстава.**

**НА ЗДЫМКАХ: знаёмства з выставай; алтарны уніяцкі крыж.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫЯ ПЕРЫЁДЫКІ ВІЦЕБШЧЫНЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

таго, па тэндэнцыйным падборы асобных крыніц і матэрыялаў, змешчаных на старонках часопіса, можна меркаваць, што ўласная пазіцыя шаноўнага рэдактара і выдаўца сп. Л. Данько не надта далёка адышла ад пазіцыі тых гісторыкаў мінулага, што заўсёды лічылі Беларусь "искони русским" і праваслаўным краем. Шкада, бо ў гэтым, на нашу думку, хаваецца адна з прычын патэнцыяльнай нежыццяздольнасці выдання. Амаль заўсёды на старонках перыёдыкаў можна сустрэць фразу: "Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў не заўсёды супадаюць". Тут, здаецца, усё атрымалася наадварот: пазіцыя большасці сучасных беларускіх гісторыкаў не супадае з пазіцыяй рэдактара, пазбаўляючы тым самым выданне магчымасці далейшага развіцця.

Не надта ўдалым у мастацкіх адносінах, як нам падаецца, быў і літаратурны аддзел "Полоцкаго летописца", які займаў значную (амаль трэцюю) частку часопіснай прасторы.

Першы нумар гістарычнага зборніка "Браслаўскія сшыткі" выйшаў у 1996 годзе накладам вельмі элітным — усяго 50 экземпляраў. Ініцыятарам яго стварэння выступіў навуковы супрацоўнік Браслаўскага краязнаўчага музея Кастусь Шыдлоўскі. Сузаснавальнікамі выдання сталі Браслаўскае музейнае аб'яднанне і Браслаўскае краязнаўчае таварыства пры ўдзеле культурна-асветніцкага цэнтра імя Я. Драздовіча ў в. Германавічы. "Збіраць і аб'ядноўваць каштоўныя зярняткі гістарычнага мінулага Браслава і края, прапагандаваць гэтае мінулае" — такую задачу паставіў перад сабой аўтарскі калектыў зборніка.

Першы нумар выдання быў прысвечаны 930-й гадавіне Браслава, і пад адной вокладкай у ім сабраны артыкулы з гісторыі горада, вытрымкі з архіўных дакументаў, бібліяграфічных крыніц, успаміны і сведчанні саміх браслаўчан. Па сутнасці, зборнік стаў досыць удалай спробай звесці ў адно месца дробную мазаіку фактаў і асобных напрацовак з гісторыі горада, што надае выданню якасці своеасаблівай энцыклапедыі гісторыі Браслава. Калі б такія перыёдыкі існавалі ва ўсіх больш-менш буйных гарадах і мястэчках Беларусі, у нашым штодзённым жыцці мы, думаецца, мелі б значна меней самых розных праблем, чым у нас ёсць зараз. Будзем чакаць наступных выпускаў "Браслаўскіх сшыткаў" і шчыра пажадаем выданню доўгага жыцця.

Часопіс "Віцебскі сшытак" пачаў выходзіць у 1995 годзе (першы нумар меў наклад 1 300 экземпляраў, другі (1996 год) — 1 000 экземпляраў). Яго заснавальнікамі выступалі Віцебскі абласны краязнаўчы музей і Віцебскае абласное краязнаўчае аб'яднанне (галоўны рэдактар — старшы навуковы супрацоўнік абласнога краязнаўчага музея Людміла Хмяльніцкая). Паводле свайго азначэння, часопіс з'яўляецца гістарычным навукова-папулярным выданнем, што адлюстроўвае адну з тэндэнцый развіцця сучаснага краязнаўства ад масавага і аматарскага да навуковага. Рэдакцыйная рада часопіса імкнецца перш за ўсё да заахвочвання даследчыцкай дзейнасці навукоўцаў Беларусі і замежжа шляхам публікацыі вынікаў іх працы па пытаннях гісторыі і культуры Віцебшчыны. Вынікі такога падыходу аказваюцца даволі плённымі: больш за 80 працэнтаў змешчаных у часопісе матэрыялаў складаюць новыя, не друкаваныя нідзе раней даследаванні.

Адметнасцю "Віцебскага сшытка" з'яўляецца таксама наяўнасць асобнага раздзела пад назваю "Допісы на палёх", у якім змяшчаюцца інфармацыі і аналітычныя артыкулы пра падзеі сучаснага культурнага жыцця рэгіёна. Думаецца, гэтыя матэрыялы цалкам маюць шанц набыць якасці гістарычнай крыніцы для тых даследчыкаў, што будуць вывучаць нашу эпоху праз некалькі дзесяцігоддзяў.

Надзвычай адметны характар мае альманах "Мішпаха" ("Сям'я"), заснаваны Беларускім аб'яднаннем яўрэйскіх абшчын і арганізацый і Віцебскім яўрэйскім культурным цэнтрам (першы нумар выйшаў у 1995 годзе, другі — у 1996-м, абодва накладам 1 000 экземпляраў). "Наш альманах — это издание для семейного чтения. Потому что все мы — одна семья. Даже десятки тысяч километров, таможни и границы, всевластные правительства и их придирчивые клерки не могут разделить людей, объединенных могилами предков, общей памятью и прекрасным небом Витебска", — напісаў у прадмове да чытача ў першым нумары выдання яго рэдактар журналіст Аркадзь Шульман.

Выданне яўрэйскага перыёдыка ў савецкім грамадстве, дзе антысемітызм існаваў на ўзроўні нягласнай дзяржаўнай палітыкі, было ў прынцыпе немагчымым. Працэс беларускага нацыянальнага адраджэння прадаставіў магчымасць культурнай рэстытуцыі ўсім нацыянальным меншасцям, што спрадвеку жывуць на Беларусі. Неабходнасць культурніцкай кансалідацыі меншых народнасцяў Беларусі існуе ў нашым грамадстве ўжо даўно, сведчаннем чаго з'яўляецца больш за чатыры сотні чытацкіх лістоў, што атрымала рэдакцыя "Мішпахі" пасля выхаду ў свет першага нумара альманаха.

У выданні змяшчаюцца літаратурныя, мастацкія і гістарычныя матэрыялы на рускай і беларускай мовах па гісторыі яўрэяў Віцебшчыны, пра жыццё знакамітых землякоў, праблемы тых, хто пакінуў Беларусь і зараз жыве ў далёкім замежжы.

Заўважым, што ўсе гісторыка-краязнаўчыя перыядычныя выданні Віцебшчыны існуюць сёння без усялякіх датацый з боку дзяржавы. Для іх выдання ў наш надзвычай складаны час патрэбны вялікі энтузіязм і апантанасць, амаль такія ж самыя, як і ў далёкія 20-я гады, на золку мройных летуценняў пра пабудову новай незалежнай дзяржавы пад назваю Беларусь. У адрозненне ад выданняў 20-х гадоў, са старонак сучасных перыёдыкаў амаль цалкам зніклі матэрыялы па прыродазнаўству і школьнаму краязнаўству, усё большыя акцэнты пераносяцца на папулярызацыю навуковых ведаў. Напэўна, гэта проста новыя прыкметы часу, у які мы жывём. А тое, што гісторыка-краязнаўчыя выданні ўсё ж жывуць і выжываюць сёння, — адзнака іх неабходнасці грамадству.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана, зверстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 373. Падпісана да друку 10.3.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**